# ПА СЛЯДАХ ГЕРОЯЎ

НЕКАЛЬКІ ГАДОЎ назад новая вуліца ў гомельскім мікрараёне Фестывальны была названа імем братоў Лізюковых — Аляксандра і Пятра. Абодва яны — Героі Савецкага Саюза, абодва загінулі ў гады Айчыннай вайны.

Аднак хутка стала вядома, што братоў было трое, старэйшага звалі Яўгенам — пра гэта расказала іх стрыечная сястра Лідзія Апанасаўна Гарунова, якая жыве ў Гомелі. У яе захавалася некалькі фатаграфій і франтавых пісьмаў ад Пятра. Пра лёс Яўгена яна нічога не ведала. Дарэчы, і пра двух малодшых братоў таксама далёка не ўсё было вядома.

Пачаўся пошук.

Дзесяткі запытаў — у архівы, ваенкаматы, музеі. Дні і тыдні чакання.

Першы адгукнуўся з Масквы сын Аляксандра Ільіча — Юрый Аляксандравіч. Ён расказаў пра тое, што добра памятаў,— пра службу бацькі з 1930 года, пра баявое хрышчэнне на Бярэзіне ў чэрвені 1941 года, дапамог знайсці нарыс К. Сіманава «Чэрвень — снежань», адзін з герояў якога — палкоўнік Лізюкоў.

Пісьмо да К. Сіманава і хуткі адказ. У канверт укладзены нумар газеты «Красная звезда» за 1964 год. Праз 23 гады пасля першай сустрэчы з А. Лізюковым у артыкуле «Школа жыцця» К. Сіманаў піша: «Пад Барысавам, у цяжкай абстаноўцы разгубленасці і неразбярыхі я запомніў на ўсё жыццё палкоўніка Лізюкова. Я запомніў яго на ўсё жыццё таму, што, будучы ў такім жа званні, як і некаторыя іншыя, і ў такім жа становішчы... менавіта Лізюкоў узяў тады ў свае рукі першую абарону на Бярэзіне і з таго часу стаў для мяне адным з узораў не толькі чыста ваеннай, але — і шырэй кажучы — грамадзянскай мужнасці».

А хутка Юрый Аляксандравіч — ён разам з бацькам гераічна змагаўся на Бярэзіне і пра яго таксама пісаў К. Сіманаў у нарысе «Чэрвень — снежань» — знайшоў фатаграфію: А. Лізюкоў і К. Сіманаў. Яна зроблена ў 1942 годзе — відаць, пісьменнік і генерал сталі сябрамі. Прафесійны ваенны А. Лізюкоў быў адукаваны чалавек, ведаў некалькі замежных моў, захапляўся літаратурнай дзейнасцю. Яго апавяданні, вершы, нарысы да вайны часта з'яўляліся на старонках газет і часопісаў. Яшчэ ў 1927 годзе выйшлі дзве яго кнігі— «Гутарка аб танках і барацьбе з імі» і «Чырвонаармеец Глянцаў». Нам удалося знайсці гэтыя кнігі, якія даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю.

...Кожны дакумент, кожная фатаграфія, якія мы зараз маем, са сваёй гісторыяй. Мы ўжо ведалі (з кніг К. Ракасоўскага, А. Крывіцкага, Г. Жукава), што А. Лізюкоў быў адным з герояў абароны Масквы, камандаваў I Гвардзейскай Маскоўскай мотастралковай дывізіяй, потым II Гвардзейскім корпусам. ...

У 1942 годзе генерала А. Лізюкова прызначылі камандзірам 5 танкавай арміі. У баі пад Варонежам ён загінуў...

Натуральна, мы звярнуліся ў Варонежскі абласны музей з просьбай прыслаць нам копіі матэрыялаў пра нашага земляка-гамяльчаніна. Атрымалі адказ: «Вы пішаце, што Лізюкоў А. І. — ураджэнец г. Гомеля, а паводле звестак, якія маюцца ў нашым музеі, ён нарадзіўся ў вёсцы Нісімкавічы Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці».



Гэты фотаздымак зроблены ў сорак другім. Аляксандр Лізюкоў і Канстанцін Сіманаў.

Спрэчку магла вырашыць толькі ім самім напісаная аўтабіяграфія. З дапамогай ваенкамата знайшлі і яе. Прыгожы разборлівы почырк. «Я нарадзіўся ў г. Гомелі, у 1900 годзе, 26 сакавіка...» Спрэчка вычарпана. Сям'я Лізюковых сапраўды жыла ў Нісімкавічах— у галодны час, у 1921 годзе, вывез туды жонку і малодшага сына Ілья Усцінавіч, гомельскі настаўнік. А Аляксандр пайшоў добраахвотнікам у Чырвоную Армію ў 1919 годзе і назаўсёды звязаў з ёю свой лёс. Вучыўся, служыў, вучыў іншых, у 1936 годзе быў узнагароджаны ордэнам Леніна, перад самай вайной атрымаў прызначэнне ў Заходнюю асобую ваенную акругу.

Пісьмы, успаміны баявых таварышаў, кнігі... Нават у самыя суровыя дні вайны ён знаходзіў час, каб падзяліцца баявым вопытам і абагульніць назіранні — ён ведаў, што гэта прынясе карысць камандзірам і салдатам. Па начах, у кароткіх перапынках паміж баямі піша ён артыкулы для «Красной звезды» і армейскіх газет. «Што трэба ведаць воіну Чырвонай Арміі пра баявыя прыёмы немцаў», «Што трэба ведаць байцам пры наступленні на немцаў» — гэтыя брашуры А. Лізюкова выйшлі ў 1942 годзе.

А. Лізюкоў дружыў з многімі пісьменнікамі, мастакамі, артыстамі. Ён часта сустракаўся з М. Брагіным і А. Крывіцкім. Тут, дарэчы трэба сказаць, што дакументы абвяргаюць фінал вельмі цікавага нарыса А. Крывіцкага «Лёс генерала». Там напісана, што пасля смерці А. Лізюкова яго імя доўга нідзе не ўпаміналася. Як жа не ўпаміналася? Вось загад аб прысваенні Саратаўскаму танкаваму вучылішчу імя Героя Савецкага Саюза генерал-маёра А. І. Лізюкова, вось пастанова СНК аб прызначэнні пенсіі яго жонцы — усё гэта было ў 1942—43 гадах.



Яўген Лізюкоў. Фота 1930 г.

Аднак, мы адхіліліся. У 1942 годзе ў газеце «Литература и искусство» з'явіўся партрэт генерала работы вядомага савецкага мастака Ф. Мадорава, у кнізе «Акцёры без грыму» Б. Філіпаў успамінае аб сустрэчах А. Лізюкова з Л. Русланавай і У. Хенкіным на фронце. Ён сам вельмі любіў песні, выдатна іграў на гітары, да вайны часці, якімі ён камандаваў, нязменна выходзілі пераможцамі ў аглядах мастацкай самадзейнасці.

Франтавыя дарогі звялі К. Сіманава і з малодшым Лізюковым — Пятром Ільічом. Ён адзін з герояў нарыса «Другая паласа», надрукаванага ў «Красной звезде» ў 1944 годзе. Пісьменнік не ведаў тады, што на Карэльскім перашыйку ў дні прарыву блакады Ленінграда сустрэўся з братам генерала.

Мы расказваем пра кожнага з братоў асобна, а пошук дакументаў і людзей, якія ведалі іх, ішоў адначасова. І лёс братоў увесь час пераплятаўся. У 1927 годзе Пётр прыехаў да Аляксандра і, беручы з яго прыклад, паступіў у ваеннае вучылішча. Гэта было нечаканасцю для яго таварышаў. «Пётр захапляўся літаратурай, пісаў многа вершаў. Я заўсёды думаў, што ён стане паэтам...»— успамінае заслужаны настаўнік БССР П. Дуброўскі.

Браты рэдка сустракаліся, але ўважліва сачылі адзін за адным. Вельмі ганарыўся Пётр, калі ў 1936 годзе адной пастановай УЦВК і ён і Аляксандр былі ўзнагароджаны ордэнамі.

І ў гады вайны ён аказаўся вартым брата-героя.

«30 студзеня 1945 года на паўднёвы ўсход ад Кёнігсберга праціўнік контратакаваў танкамі і пяхотай нашы перадавыя часці, і палкоўнік Лізюкоў, будучы непасрэдна ў баявых парадках часцей, загінуў смерцю храбрых.



Пётр Лізюкоў.

За выключна ўмелае кіраванне часцямі брыгады, асабістую храбрасць і геройства, у выніку чаго праціўніку нанесены вялікія страты, таварыш Лізюкоў Пётр Ільіч варты пасмяротна прысваення звання Герой Савецкага Саюза» — так запісана ва ўзнагародным лісце.

І крыху ніжэй — аднадушнае заключэнне вышэйшых інстанцый — «варты».

...А пра Яўгена Ільіча мы атрымалі аднатыпныя адказы: «не лічыцца»..., «не значыцца»..., «звестак няма»... Праўда, у адным газетным артыкуле ў 1971 годзе гаварылася, што ён у званні палкоўніка загінуў пад Сталінградам. Аднак у спісах загінуўшых ён не лічыцца, сярод жывых яго таксама не было.

Але не мог жа чалавек прапасці бясследна. Л. Гарунова многа расказвала нам пра Яўгена — ён у 1917 годзе пайшоў добраахвотнікам на абарону Савецкай рэспублікі, стаў чырвоным камандзірам, па хваробе ў 1932 годзе дэмабілізаваўся, вучыўся ў інстытуце, працаваў... Яна гаварыла, што не мог ён — калі быў жывы — адседжвацца недзе ў гады вайны. Ён, канечне, змагаўся з ворагам.

Дзе? Калі не ў дзеючай арміі, то — меркавалі мы — у якім-небудзь партызанскім атрадзе. Зноў уважліва перачытаны кнігі па партызанскім руху — прозвішча Лізюкова няма. Але ж не пра ўсіх яшчэ напісана.

І ўсё-такі — інтуіцыя ці што — шукалі яго менавіта сярод партызан. Правільнасць гэтага пошуку хутка пацвердзіў яго пляменнік Юрый Аляксандравіч. Ён успомніў, што, здаецца, сустракаў аднойчы ў гады вайны прозвішча Лізюкова ва Указе аб узнагародзе ордэнамі і медалямі беларускіх партызан.

У Мінску, у партархіве Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ былі падняты і прачытаны тысячы партызанскіх дакументаў. І нарэшце...

«Загад № 6 па партызанскім атрадзе імя Фрунзе. Прызначыць камандзірам другой роты старшага лейтэнанта Лізюкова Яўгена Ільіча».

А потым — дзесяткі баявых данясенняў, справаздач, зводак, загадаў, падпісаных Я. І. Лізюковым, характарыстыкі, узнагародныя лісты.

Далей усё было параўнаўча проста.

«Ён быў добры і справядлівы камандзір. Ён быў таксама бясстрашны воін. Я была з ім у многіх баявых аперацыях. Ён быў заўсёды наперадзе і на самых цяжкіх участках. Ён, памойму, не меў пачуцця страху»,— напісала нам былая партызанка, цяпер дацэнт Казанскага фінансава-эканамічнага інстытута Р. Загірава.

У Беларусь, у партызанскі атрад, Я. Лізюкоў быў закінуты па заданні ЦК КПБ.

«7 ліпеня 1944 года атраду Лізюкова было загадана ісці ў Мінск, вызвалены напярэдадні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, на партызанскі парад. У лесе ля вёскі Грэбень атрад сутыкнуўся з акружанай групоўкай нямецкіх войск. Партызаны адкрылі па праціўніку ўраганны кулямётны агонь і смелым ударам рассеклі гэту групоўку на дзве часткі.

Жорсткі бой перайшоў у рукапашную сутычку. Прыклад мужнасці і адвагі паказаў камандзір атрада Лізюкоў. «Хлопцы, бі фашысцкіх гадаў!» — з гэтымі словамі загінуў смерцю героя баявы камандзір Я. І. Лізюкоў». (З гісторыі 2-й Мінскай партызанскай брыгады).

Сустрэчы з кожным з братоў Лізюковых былі сапраўднай школай жыцця для многіх людзей, школай мужнасці і патрыятызму.

**Д. РАДЗІНСКІ,**
**М. ЦАРКОЎ.**

Гомель.

---

адказнасць яе перад народам, перад партыяй. І давайце з вышыні літаратуры, як справы народнай, паглядзім, што адбываецца ў нас, як жывецца нашай крытыцы.

Кожны бачыць, у далёкае мінулае адышлі часы, калі правамернай зброяй крытыкі была вядомая крытычная дубіна. Не размахвае цяпер ніхто дубінай, і не толькі дубінай, а і дубцом, як правіла, не замахваюцца. Усталяваўся ў нашым крытычным ужытку прыемны, далікатны тон. Як звычнае, нармальнае прыжылося правіла: выбіраць для гаворкі добрае, пра непрыемнае, дрэннае гаварыць кароценька і мякка.

Па-мойму, наша крытыка не знайшла нейкую разумную раўнадзеючую, дзе б патрабавальнасць і такт максімальна дзейнічалі на карысць літаратуры.

Цікавая асаблівасць моманту: у выніку паслаблення крытыкі тое шэрае, што раней ціха жыло, пабойвалася замаху крытыкі, цяпер прыкметна пасмялела. Аўтары слабых твораў нярэдка ўжо не задавальняюцца тым, што крытычную небяспеку пранесла міма, іх абурае ўжо, што пра іх маўчаць. Яны адчулі патрэбу, каб пра іх гаварылі! Вядома — добрае!

Ужо не толькі дзе-небудзь у сяброўскіх гутарках, а і з трыбуны Саюза пісьменнікаў БССР можна пачуць неверагодную заяву: «У літаратуры няма добрых і дрэнных пісьменнікаў! У літаратуры ўсе аднолькава пішуць!» З трыбуны Саюза пісьменнікаў прагучаў заклік, які фактычна азначаў, што трэба размыць, ліквідаваць крытэрыі патрабавальнасці.

Самым сумным, бадай, было тое, што гэты неверагодны заклік быў падтрыманы воплескамі даволі значнай часткі пісьменнікаў.

Тое выступленне было ваяўнічым не толькі па змесце, а і па тоне: перакананне, што ў літаратуры няма добрых і дрэнных твораў, падобна было, стала дыктаваць свае патрабаванні крытыцы! Вось да чаго прыводзіць аслабленне крытыкі!

Мімаволі ўзнікае параўнанне: калі ў даўнаватыя часы мы з трывогай сачылі за крытычнай дубінкай, то цяпер іншы раз такая дубінка, вельмі рэальная, памахвае над крытыкай! Якія бываюць парадоксы развіцця!

Не адзін крытык і пісьменнік правільна гаворыць пра нездаровую атмасферу, у якой даводзіцца працаваць сёння крытыкам. Акрамя нецярпімасці да крытыкі з боку асобных аўтараў, сюды можна аднесці і тыя не надта прыхільныя ўмовы, у якіх «выпрабоўваюцца» кнігі ў выдавецтвах, і тое, як скупа адводзіцца месца для крытычных твораў у тэматычных планах, і нізкая матэрыяльная аплата працы крытыкаў, пра якую гаварыў Я. Герцовіч у дыскусіі ў «ЛІМе».

Я згодны з усім, што піша В. Каваленка наконт акалічнасцей, у якіх даводзіцца працаваць нашым крытыкам. «З крытыкай ніхто не раіцца...» «Думка ўсёй крытычнай секцыі Саюза пісьменнікаў не бярэцца пад увагу і нават ігнаруецца»... «самымі вялікімі крытыкамі», якія «смела» вырашаюць лёс твора, сталі «аднаасобнікі» ў выдавецтвах, рэдкалегіях і рэдсаветах...» «Крытыка нічога не вырашае, яна толькі выказвае меркаванні, якія нікога ні да чаго не абавязваюць».

Мы разумеем значэнне, неабходнасць таго кантролю, які павінны рабіць рэдакцыі і рэдсаветы, але хацелася б, каб кантроль гэты рабілі добра адукаваныя, разважлівыя, разумныя людзі, рабілі з тактам, на сапраўдным партыйным ўзроўні.

Гэта з асаблівай вастрынёй ставіць пытанне пра тых нашых таварышаў, якія займаюць адказныя пасады ў літаратуры, пра **кадры.** Пра загадчыкаў рэдакцый, рэдактараў — малодшых, старшых, галоўных. Пра ўсіх тых, ад каго ўрэшце залежыць жывая, практычная дзейнасць літаратуры, якая ёсць наша штодзённае жыццё.

У Пастанове ЦК КПСС на гэта звернута вялікая ўвага. Хацелася б, каб адказныя пасады ў друку і літаратуры займалі лепшыя людзі з нашага асяроддзя, прынцыповыя, з высокай грамадзянскай і прафесійнай культурай, якія б памагалі нам ісці наперад, а не цягнулі назад.

Вялікі наш клопат, каб новае выдавецтва «Мастацкая літаратура», за стварэнне якога мы вельмі ўдзячны Цэнтральнаму Камітэту КПБ, было ўкамплектавана іменна такімі людзьмі. Гэта жыццёва неабходна нашай літаратуры, і ў тым ліку — крытыцы.

Таварышы, дазвольце закончыць маё выступленне заяваю, што мы ўсе, і нашы крытыкі ў тым ліку, добра разумеем тыя вялікія задачы, якія паставіў перад намі XXIV з'езд КПСС і якія развіты ў Пастанове ЦК КПСС, і зробім усё для таго, каб задачы гэтыя выканаць як належыць: даць нашаму народу творы, якія б памагалі людзям жыць і будаваць. Жыць па высокіх законах савецкай маралі, будаваць самае чалавечнае грамадства—камуністычнае.

# ЗАПАВЕТНАЕ

## Міхасю САВІЦКАМУ — 50

ЗДАЕЦЦА, зусім нядаўна вярнуўся ў родныя краі жывапісец Міхаіл Андрэевіч Савіцкі, які бліскуча закончыў Маскоўскі мастацкі інстытут імя Сурыкава і адхіліў спакуслівую прапанову застацца ў сталіцы. А між тым, прайшло пятнаццаць гадоў. І кожны быў напоўнены сістэматычнай, сапраўды самаадданай працай, якая сфарміравала яркую творчую індывідуальнасць мастака, без якога ўжо немагчыма ўявіць сабе савецкае і, тым больш, беларускае мастацтва. Творчасць Савіцкага развіваецца ў духу пошукаў востра-выразных пластычных рашэнняў, якія адпавядаюць маштабнасці ідэй нашага часу, сіле перажыванняў і задумам мастака-грамадзяніна.



Сваё пяцідзесяцігоддзе ён сустракае ва ўсеўзбраенні майстэрства. Створаны дзесяткі карцін. Многія набылі шырокую вядомасць. Яны былі «паўпрэдамі» савецкага мастацтва на Міжнароднай выстаўцы ў Манрэалі (ЭКСПО-67), на трыццаць шостай Біенале ў Венецыі (1968), на Міжнароднай выстаўцы ў Асака (ЭКСПО-70). З карцінамі Савіцкага знаёмыя ў Англіі, Фінляндыі, Германіі, Румыніі, Польшчы, Манголіі. Нямала работ мастака адзначаны дыпломамі, медалямі. Сярэбраны медаль імя Грэкава прысуджаны Савіцкаму за серыю твораў на партызанскую тэму.

**Тэма Вялікай Айчыннай вайны і нябачанага па размаху партызанскага руху ў Беларусі больш трыццаці гадоў прыкоўвае да сябе ўвагу мастакоў рэспублікі, у пэўнай меры вызначаючы нацыянальную своеасаблівасць яе мастацтва.**

**У творчасці Савіцкага партызанская тэма стала галоўнай, вызначальнай. Яна завалодала ўсімі помысламі мастака — ён яшчэ дзевятнаццацігадовым юнаком атрымаў «хрышчэнне агнём» у Севастопалі, які стаяў насмерць.**

**«Я мог бы «пражыць» і на сваіх севастопальскіх уражаннях, — гаворыць Савіцкі. — Але мне здаецца, для нас, хто жыве ў Беларусі, партызанскі рух — асабліва важная тэма».**

ВЕЛЬМІ значнай работай, удастоенай дыплома Саюза мастакоў СССР, была карціна «Партызаны» (1963). Гледзячы на яе, нельга не ўспомніць «Лясныя песні» беларускіх партызанскіх паэтаў. Палатно Савіцкага здаецца своеасаблівай пластычнай інтэрпрэтацыяй гэтай палымянай паэзіі.

Грамадзянскі пафас мастака — пачуццё глыбока асабістае, кроўнае. Таму такія маштабныя створаныя ім вобразы, а прыватны эпізод развітання вырастае да ступені вялікага абагульнення, велічнага гімна духоўнай прыгажосці савецкага чалавека.

Гуманістычная задума мастака ў працэсе лагічнага развіцця прывяла да стварэння такога значнага твора, як «Партызанская мадонна».

Маладая маці з дзіцем — сімвал жыцця, шчасця і будучага чалавецтва, дзеля якога ідзе ў трывожна чорную далячынь маналітны атрад народных мсціўцаў.

Сумяшчэнне некалькіх сюжэтных ліній у межах аднаго палатна вызначыла мантажны характар кампазіцыі. Кожны яе кампанент — носьбіт пэўнага паняцця, сэнс якога раскрываецца праз энергічна абагульненую пластычную характарыстыку фігур і эмацыянальна напружаны каларыт. «Бо форма — адкрыццё, адкрыццё эпохі, міру. Заўсёды мастакі шукалі сімвалы свайго часу, спрабавалі сфармуляваць у пластыцы галоўныя паняцці эпохі».

Думка Савіцкага выклікае ў памяці словы І. Мартоса, аўтара слаўтага помніка Мініну і Пажарскаму: «Пад выглядам цяжкіх згібаў галоўных частак чалавечага цела можна разумець былое цяжкае становішча любімай Айчыны; пад выглядам мудрагелістых паваротаў, якія з'яўляюцца ў фігурах, можна разумець мастацтва і напружанае дзеянне нашых воінаў; пры дапамозе выразных накрэсленняў, выказаных па ўсіх частках, можна разумець паўсюдны рух, які быў у Расіі».

У апошняе дзесяцігоддзе многія савецкія мастакі з асаблівa пільнай увагай вывучаюць мастацтва рускага Рэнесансу. Далучаючыся да адметнага ладу іх вобразнага мыслення, разумеючы заканамернасці іх творчасці, Савіцкі паспрабаваў стварыць крыху наіўную, як народнае паданне, «Легенду пра бацьку Мінаяe».

«Мне здаецца, няправільна гаварыць, што заўсёды трэба шукаць нанава, — гаворыць мастак. — Можа быць цікавым прадаўжэнне традыцыі, выкарыстанне яе элементаў. Канечне, ужываюцца яны ўжо інакш».

З гэтай думкай можна згаджацца або не згаджацца, але адно несумненна: дапушчаныя Савіцкім некаторыя рытмічныя і інтанацыйныя аналогіі не зніжаюць якасці яго работ, заўсёды адухоўлена выразных, прасякнутых пафасам сцвярджэння або пафасам адмаўлення.



М. САВІЦКІ. «Забойства сям'і партызана». Масла.

НА ПРАЦЯГУ раду гадоў Савіцкі паслядоўна распрацоўвае дзве тэмы: адна прысвечана героям і ахвярам вайны, другая — мірным працаўнікам. Яны суіснуюць, гэтыя тэмы, жывячыся рознымі крыніцамі, якія бяруць пачатак у жыццёвым вопыце мастака.

Савіцкі перакананы: «Карціна павінна пісацца, пісацца на жыццёвай аснове, пад пэўным пунктам гледжання». У гэтым перакананні — адна з асноўных асаблівасцей творчага метаду мастака. Валодаючы вялікім запасам жыццёвых уражанняў і рэдкай зрокавай памяццю, Савіцкі працэс выспявання і развіцця задумы не фіксуе ў эскізах і эцюдах. Гэты працэс у яго адбываецца мысленна.

«Для мяне вельмі важна пісаць не як бачыш, а як ведаеш, — гаворыць мастак. — Калі прытрымлівацца прынцыпу «пішу, як бачу», міжволі ўносіш многа выпадковага. А ў карціне выпадковае, непрадуманае «не працуе».

Адна з лепшых карцін Савіцкага «Віцебскія вароты». Метафарычнасць мастацкай мовы ўзмацняе выразнасць палатна, надаючы яму велізарнай сілы эмацыянальны зарад.

Два ўзгоркі, амаль сіметрычна размешчаныя па баках карціны, пакідаюць вузкі калідор, за якім у чырвоным, нібы абпаленым агнём, небе чарнее нешта накшталт варот. Да іх двума патокамі «ідуць байцы здабыць народу шчасце», а адтуль, са змроку фашысцкай акупацыі, выходзяць савецкія людзі. Мастак не баіцца адкрытага паказу чалавечых пакут, якія часам літаральна аглушаюць. Але нават у людзях, якія ўпадаюць у транс, Савіцкі падмячае ўнутраны пратэст, якім абумоўліваецца жыццяздольнасць народа, яго патэнцыяльная сіла і, у канчатковым выніку, перамога.

Адчуваннем маральнай перавагі над ворагам прасякнута карціна «Пакаранне смерцю». Гэта — аптымістычная трагедыя. Мастак уславіў стойкасць савецкіх патрыётаў, іх ідэйную перакананасць і пачуццё ўласнай годнасці. Пафас сцвярджэння абумовіў пранікнёную індывідуальную характарыстыку персанажаў, чысціню колеру і агульны мажорны тон палатна.

**«Мінула многа гадоў пасля заканчэння вайны, і пра яе, мне так ва ўсякім выпадку здавалася, трэба было гаварыць інакш, — даверліва прызнаецца мастак. — Дакументальнасць, простае апавяданне, якое заканамерна атрымала развіццё ў першыя часы пасля вайны, ужо не задавальнялі. Хацелася паказаць... не асобныя выпадкі, сітуацыі, а чалавечыя страсці, прыгажосць чалавека, сілу духу. Паказаць сканцэнтравана, насычана. Толькі тады гэта магло загучаць так жа сучасна, як карціна аб сённяшнім жыцці».**

ПЯЦЬ лепшых гадоў забрала ў Савіцкага вайна. Адгалоскі яе пастаянна жывуць у мастаку.

...Лагер для ваеннапалонных у Дзюсельдорфе... Бухенвальд... Жахлівыя зверствы гітлераўцаў... Мільёны загубленых жыццяў...

Каб расказаць аб гэтым, трэба было матэрыялізаваць у канкрэтных, пластычных вобразах «крык душы» мастака. Менавіта так і ўспрымаецца карціна пра гібель партызанскіх дзяцей «Партызаны. Блакада», ад якой стыне кроў. Напал чалавечых страсцяў дасягнуў кульмінацыі. Адзіны для ўсіх душэўны стан — у канцэнтраванай выразнасці кожнага жэсту, руху. Некаторая «недавыказанасць» форм, іх нервовая, рэзкая рытміка і аскетычны мёртвы каларыт з трывожнай крывава-чырвонай паласой заходу сонца, што надае палатну абвострана-экспрэсіўны характар, — усё падначалена задуме.

Трагедыя народа ў часіну ваенных выпрабаванняў раскрыта і ў карцінах «Забойства сям'і партызана», «Клятва», «Маці партызана». Пры ўсім адрозненні сюжэтаў і кампазіцыйных будоў гэтыя карціны аб'яднаны палымяным пратэстам супраць жорсткасці ворага, якога не кранаюць ні дзіцячы позірк, ні «мяккі пух сівізны».

Узрушае вобраз скошанай куляй старэнькай маці партызана, якая ўжо ахоплена змрокам небыцця. У рэзка дысаніруючых успышках колеру і нервовым, пульсуючым рытме нібы застыў немы крык ахвяр, у якіх фашысцкія каты забіраюць жыццё.

Дымна-бялёсае неба ў карціне «Пакаранне смерцю» нібы прарвана залпамі і рассечана трасамі снарадаў. Гэта — вайна з яе гулам і скрыгатам металу, вайна, якая нясе разбурэнне і смерць.

У палатне «Маці партызана» падабенства белага полымя, карычнева-сіні дым і злавесны аранжавы серп месяца нагадваюць аб жахах гета і лагераў смерці. Фабрык смерці...

**...Бухенвальд. Сакавіцкая ноч 1945 года ледзь не стала апошняй для Савіцкага. Калі вязняў пагналі да крэматорыя, ён аказаўся ў самым канцы строя. Вароты зачыніліся за яго спіной, прадракаючы непазбежную гібель. Але здарыўся цуд, у які да гэтага часу цяжка паверыць. Вароты зноў расчыніліся, і гітлераўцы, адлічыўшы ад хваста чаргі паўтары сотні чалавек, пагналі іх да чыгуначнай станцыі. Для эвакуацыі лагера быў пададзены састаў, у якім аказалася на два вагоны больш, чым меркавалася. Гэтаму выпадку Міхаіл Савіцкі абавязаны сваім выратаваннем.**

**Па дарозе ў Дахаў ён чацвёрты раз спрабаваў уцякаць, быў па-зверску збіты і кінуты ў штрафны вагон. У тыфозным бараку лагернага лазарэта ў Дахаў праляжаў без памяці да прыходу туды амерыканцаў. Пасля выздараўлення яго перапраўлі ў Венгрыю, у распараджэнне савецкага камандавання.**

НАВАТ карціны, напісаныя Савіцкім на зусім мірныя тэмы, прасякнуты адчуваннямі чалавека, які прайшоў вайну і перажыў усе жахі фашысцкіх канцэнтрацыйных лагераў. Ён быццам нанова ўбачыў свет, адчуў яго прыгажосць, шчодрасць зямлі, веліч паўсядзённай працы чалавека.

Мастак настойліва звяртаецца да тэмы працы хлебароба. Атмасфера ўрачыстай святочнасці прысутнічае ў карцінах «Хлеб» (1962), «Ураджай» (1966—67) і «Хлябы». Але ў іх расстаўлены розныя сэнсавыя акцэнты. У першай падкрэслены ветлівая добразычлівасць і акуратная дамавітасць маладой пары. Адчуванне дзівоснай чысціні, цяпла і гармоніі ўласцівыя ўсім кампанентам гэтага твора. На загарэлых тварах сялян у карціне «Ураджай» — ганарлівая ўпэўненасць і адкрытая, амаль дзіцячая радасць. У трэцяй рабоце Савіцкі прадстаўляе сваіх гераінь «не як прыватнае, а як катэгорыю, тып». Урачысты поступ сялянак, запаволены рытм руху надаюць жанчынам асаблівую велічнасць, высакародную стрыманасць.

Гэтыя ж якасці ўласцівыя персанажам карціны «Рабочыя» (1968). У трактоўцы яе няма і ценю жанравасці, якая вызначала першы варыянт, створаны ў 1963 годзе. Мастак нібы падсумоўвае характэрныя прыкметы, ствараючы глыбока ўражлівыя вобразы прадстаўнікоў авангарду рабочага класа. Невыпадкова палатно гэтае адразу ж пасля яго завяршэння было накіравана на Міжнародную выстаўку ў Венецыі, а потым у Асака на ЭКСПО-70. Яна ж разам з карцінамі «Хлябы» і «Пакаранне смерцю» была прадстаўлена на Дзяржаўную прэмію БССР.

Тэмп работы мастак не зніжае ні на хвіліну. Зусім нядаўна ён скончыў роспіс адной са сцен у Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, плошчай у сорак восем квадратных метраў.

**Тэма роспісу — «народная, свяшчэнная вайна». Ужо знаёмы нам па карцінах Савіцкага прыём мантажа тут больш, чым калі-небудзь, апраўданы. Строгая выразнасць вобразнай мовы дазваляе гледачу лёгка ўлавіць сэнсавы і кампазіцыйны цэнтр: групу мацярок, што ўвасабляюць мір, які савецкія воіны адстаялі са зброяй у руках дзеля жыцця на зямлі. Неабдымнасць значэння перамогі над фашызмам падкрэслена рытмічнай структурай роспісу. Нібы падначаленыя цэнтрабежнай сіле, разгортваюцца прастораывя планы, якія не разбіваюць, аднак, плоскасці сцяны. Асноўныя сэнсавыя вузлы — фронт, тыл, разгром, вызваленне — выдзелены амаль лакальнымі суадносінамі залацiста-жоўтага, чырвонага і чорнага. Скупым і выразным каляровым вырашэннем вызначаецца эмацыянальны лад роспісу, яго патэтыка-драматычнае гучанне.**

Яшчэ мала гледачоў паспела азнаёміцца з роспісам і дзвюма новымі карцінамі Савіцкага («Забойства сям'і партызана» і «У полі»), а неспакойнае творчае ўяўленне падказвае мастаку сюжэты новых твораў. На падыходзе ажыццяўленне самых запаветных задум.

Ірына НАЗІМАВА.

## Міхаіл ЛУКОНІН



Аркадзь Куляшоў і Міхаіл Луконін.

### ТЫМ, ШТО ПРЫЙШЛІ З ВАЙНЫ

Ні прамовы, ні лаўры —
Не патрэбны яны
Нам, што кветак не прагнуць,
Нам, што з поля вайны,
Не,
не гэта.
Нам трэба,
Каб на новай вярсце
Дыхаць водарам хлеба,
Лугам тым, што цвіце.

Не шкадуйце,
прывалам не радуйце нас,
Не стаміліся мы,
У дарогу нам — час!
Не глядзіце на нас
расчулена,
Нам, жывым,
не здзіўляйцеся,
не...
Мы жылі на вайне!
Нам спакой не да твару,
Не да гонару — сны.
Працай рук абнавіць
Трэба нам ардэны,
Гонар свой — хай спакой
Пачакае яшчэ!
Прага цяжкай работы
Нам далоні сячэ.
Мы капалі акопы
з зары да зары,
Час тачыць лемяхі,
Час вадзіць трактары,
Нам пара:
зброі звон —
на звон тапара,
Посвіст куль —
на шыпенне пілы
і пяра.

Ты даруй, мне, каханая,
Верны лёсу свайму,
Сам шынель я павешу,
Боты сам я здыму.
Сам цябе пявяду
У імклівы паток.
Пальцы ў пальцы ўпляту,
Крок у крок, зрок у зрок.
Я з табою,
але
Кольца любых мне рук —
Не замок,
не вянок,
не ўратоўчы мой круг.

### ПРЫЙДУ ДА ЦЯБЕ

Ты думаеш:
Прынясу з сабой
Стому альбо тугу.
Але адзін на адзін з табой
Быць тады ці змагу?
Захачу расказаць, як агонь
гудзе,
Смерць вядзе за сабой,
А ты —
і ты жыла ў бядзе,
Цябе не ўразіш бядой.
Аб тым, як цудам выжыў,
пачну,
Як смерці душыла імгла,
А ты —
ты ў ноч ледзяную адну
Волгу пераплыла.
Голас твой не будзе звінець
Песняй —
не помніш слоў.
Потым
я пачну
вар'яцець
Ад нязвыклых умоў.
Зашыюся ў кут, калі — на стале
Вячэра, што мне ў навіну.
Запросіш
на ложак мяне,
але
я
на падлозе
засну.
Акопчык выкапаю ля акон.
Дзе сон твой дзенецца,
дзе,
Калі я стану пытацца
праз сон:
— Стой! Хто ідзе?!

Не, не думай, што так прыйду.
На шляхах франтавых
Біць навучыліся мы бяду,
Рабіць і жыць
за дваіх.
Інакш вернемся мы!
Бо рунь
Чакае не гэткіх нас.
Мы прыйдзем — рабіць,
курыць тытунь,
Несці за ўсё адказ.
Я не падзяку на ўвазе меў —
Падзякаваць лячу.
Я ворагу ўсё сказаў, што хацеў.
Цяпер працаваць хачу.
Не за ўцяшэннем —
з уцехай я
Вярнуся туды, дзе ты.
Усё, што зрабіў я,
не ласка мая —
Мой абавязак святы.
Сяброў пабачыць,
пагасцяваць
І цяжка
і прагна жыць.
Рабіць — у кузню,
а ў ложак — спаць,
Каханню —
песню злажыць.
Быў у зарыве франтавым
Выбар адзіны: бой, —
Ды лепей прыйсці
з рукавом пустым,
Чым з пустой душой.

Пераклаў Аркадзь Куляшоў.

## З УЗНАГАРОДАЙ!

*За плённую літаратурную і літаратуразнаўчую дзейнасць і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў літаратуразнаўцу і крытыка Перкіна Навума Саламонавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## Аб увекавечанні памяці Я. К. Цікоцкага

Савет Міністраў Беларускай ССР прыняў пастанову аб увекавечанні памяці народнага артыста СССР, кампазітара Яўгена Карлавіча Цікоцкага. Яго імя прысвоена Бабруйскай дзіцячай музычнай школе.

Выканкому Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных даручана прысвоіць імя Я. К. Цікоцкага адной з новых вуліц сталіцы рэспублікі. На доме № 36 па Ленінскім праспекце, у якім жыў Я. К. Цікоцкі, будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

БЕЛТА

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

## ЖЫВУЦЬ У НЕГЛЮБЦЫ МАЙСТРЫХІ...

Калісьці кожная дзяўчына ў Неглюбцы ткала сабе пасаг. А ручнікі старалася вытkаць найлепей. Бо на вяселле, да прыезду маладых, яе радня развешвала ручнікі ў хаце жаніха. Найпрыгажэйшы вешаўся на кут. Да прыезду маладых усе жанчыны вёскі збіраліся ў хаце, каб ацаніць умельства нявесты.

Ткацкі арнамент ручнікоў складаецца з элементаў стылізаваных кветак, кожны з іх мае сваю назву: «валошка», «ліст», «яблынька», «жалуддзя», «рэдзька». Ёсць тут і стылізаваныя жывёлы і насякомыя: «казельчык», «мядзведзь», «павук». Назвалі майстрыхі ў арнаменце і прадметы хатняга ўжытку: «самавар», «калёсы». Жанчыны з Неглюбкі лічаць багацейшым такі ручнік, які складаецца з 7—9 палос. Ранейшыя ручнікі маюць 3—5 палос. Палосы з арнаментам чаргуюцца з палосамі без арнаменту. Пры даўжыні ручніка 4 метры і шырыні 42 сантыметры арнамент займае на абодвух канцах па 80—100 сантыметраў. Далей увесь ручнік затканы палоскамі, падобнымі на мярэжку. У ручніках, якія вытканы нядаўна, каб яны выглядалі багацейнымі, паміж палосамі размяшчаюць па чатыры элементы арнаменту.

Старыя ручнікі былі часцей за ўсё аздоблены белым арнаментам на чырвоных палосах. Пазней стаў уводзіцца чорны. У ручніках, якія вытканы ў апошнія 10 гадоў, з'явіліся зялёны, сіні і жоўты колеры.

Канцы ручнікоў заканчваюцца карункамі. Белымі, каляровымі або «махрамі». Іншы раз чырвоны колер перамешваецца чорным. У колер «махры» сённяшніх ручнікоў уваходзяць усе колеры, якія ёсць у ручніку.

На ўсё гэта багацце, створанае неглюбскімі майстрыхамі, мінчане могуць падзівіцца на выстаўцы, якая адкрылася ў Мінскім доме мастацтваў.

**М. ЖАБІНСКАЯ,**
метадыст Рэспубліканскага Дома народнай творчасці.

## «А ДЗЕ МНЕ ЎЗЯЦЬ ТАКУЮ ПЕСНЮ...»

Так называюцца канцэрты вакальнага ансамбля, які гастралюе па Гомельшчыне. Са сцэн клубаў, дамоў і палацаў культуры разносяцца напеўныя мелодыі песень «Вербачка», «Таполі», «Расце ў Волгаградзе бярозка», «Арэнбургская пуховая хустка», «Снег, снег», «А дзе мне ўзяць такую песню...» і іншых.

Перад канцэртамі Р. Панамарэнка расказвае пра свой творчы шлях ад баяніста-выканаўцы да кіраўніка аркестра народных інструментаў.

У канцэртах прымаюць удзел сам кампазітар Р. Панамарэнка, украінская паэтэса К. Кавалёва, спявачкі Л. Дробава і Р. Кісялёва.

У Гомелі ансамбль упершыню выканаў новую песню Р. Панамарэнкі «Гомель — сэрца маё», якую кампазітар прывёз у падарунак гамяльчанам.

**М. ГАТОЎКІН.**

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



Дзяржаўны Акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР пазнаёміў мінчан з трэцяй сцэнічнай рэдакцыяй спектакля «Фауст», оперы, якая ў свой час ставілася студэнтамі Беларускага музычнага тэхнікума (тады, у 1928 годзе, галоўныя партыі выконвалі Л. Александроўская, П. Валадзько, М. Цюрэмнаў і іншыя маладыя выхаванцы тэхнікума). У 1950 годзе дырыжор Т. Каламійцава, рэжысёр У. Шахрай і мастак С. Нікалаеў далі новую тэатральную версію твора Ш. Гуно на беларускай сцэне.

15 лютага адбылася прэм'ера спектакля ў пастаноўцы заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР С. Штэйна. Дырыжор — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР І. Абраміс, мастак — Я. Ждан, хармайстры — народны артыст БССР А. Кагадзееў і Г. Луцэвіч.

На здымку — сцэна з «Фауста». У ролях: Маргарыта — народная артыстка БССР Т. Шымко, доктар Фауст — народны артыст БССР З. Бабій.

Фота Ул. КРУКА.



«Дзень добры, Крымаў!» — так называецца чарговы спектакль Гомельскага абласнога драматычнага тэатра, пастаўлены па п'есе Р. Назарава. Рэжысёр — Г. Вагаў, мастацкае афармленне Л. Ганчаровай.

На здымку — артысты Л. Шубо і Л. Собалева ў ролях Крымава і Галкі.

Фота Ул. ТКАЧЭНКІ.



Дзяржаўны Рускі драматычны тэатр БССР імя М. Горкага паказаў новы спектакль — «Саслужыўцы» Э. Брагінскага і Э. Разанава. Паставіў спектакль рэжысёр А. Кузняцоў, мастацкае афармленне — заслужанага дзеяча мастацтваў Казахскай ССР В. Галубовіча.

На здымку — сцэна са спектакля. У ролі Калугінай — заслужаная артыстка БССР І. Лакштанава, Верачкі — артыстка Э. Аўчыннікава.

# КРАХ ІЛЮЗІЙ КІРЫЛА КІСЕЛЬНІКАВА

**«БАГНА» А. АСТРОЎСКАГА НА СЦЭНЕ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА імя Я. КОЛАСА**



Сцэна са спектакля. Злева направа — Г. Дубаў у ролі Кісельнікава, народныя артысты БССР А. Шэлег (купец Бараўцоў) і А. Трус (чыноўнік Пераяркаў).
Фота С. КОХАНА.

МАГУТНАЯ, узрушана-трагічная музыка паступова змяняецца трывожнымі трапяткімі гукамі рускай народнай мелодыі. На сцэне — Няскучны сад. Масквічы гуляюць, абменьваюцца рэплікамі. Спектакль пачаўся. Слова за словам, сцэна за сцэнай уводзяць нас у складаны, супярэчлівы свет вобразаў і падзей п'есы «Багна», якая ўпершыню ставіцца на беларускай мове. Драматург назваў свой твор «сцэнамі з маскоўскага жыцця», падкрэсліваючы яго жыццёвае паходжанне і побытавую канкрэтнасць, адлюстраваныя ў п'есе.

Не гэта (дакладней, не толькі гэта), аднак, прыцягнула ўвагу тэатра імя Я. Коласа. Пастаноўшчык спектакля С. Казіміроўскі ў рэжысёрскай пабудове «сцэн» раскрывае сацыяльныя канфлікты часу, якія скандэнсаваліся ў трагічным лёсе Кірыла Кісельнікава, галоўнага героя п'есы. Ажыццяўленню такой задумы ў вялікай ступені дапамагае дэкарацыйнае (мастак Я. Нікалаеў) і музычнае (І. Нісневіч) афармленне. Вобразна-зрокавае выяўленне падзей асацыіруецца з дарогай праз цемру, праз багну сацыяльнай неўладкаванасці, а фрагменты музыкі адцяняюць драматычнае напружанне канфліктаў.

**У п'есе «Багна» няма эфектнай інтрыгі, нечаканых паваротаў сюжэта, сцэнічнай кідкасці. Не мае яна пастановачных традыцый, як, да прыкладу, «Навальніца», «Беспасажніца» або «Лес». А твор вельмі цікавы тым, што ў ім з вялікай мастацкай сілай раскрываецца цярністы жыццёвы шлях простага, звычайнага чалавека, які б'ецца ў віры сучаснай яму рэчаіснасці за права быць сумленным. Разам з тым Кісельнікаў — ахвяра сацыяльнага ладу, дзе ўчынкамі людзей кіруюць не прынцыпы гуманнасці, а прага да ўзбагачэння і нажывы. Роля Кірыла Кісельнікава складаецца як бы з трох гарманічна звязаных паміж сабой частак. У першай сцэне ён вясёлы, крыху збянтэжаны, наіўны, даверлівы, шчаслівы жаніх, якому будучыня мроіцца ў вясёлкавых фарбах. Глафіра, нявеста-прыгажуня, — мяжа яго мар і летуценняў. У другой, а потым трэцяй сцэне на яго навальваецца столькі жыццёвых выпрабаванняў (смерць дзяцей, прагнасць жонкі да грошай, вераломства цесця), якіх ён не можа перанесці. Пахіснулася яго вера ў сумленнасць, у праўду. Не вытрымаў змагання з няпраўдай яго розум. У фінале герой п'есы становіцца бездапаможным дзіцем, траціць памяць і здаровы розум.**

Для выканаўцы ролі Кісельнікава — артыста Г. Дубава — работа над вобразам такога шырокага псіхалагічнага маштабу з'явілася выпрабаваннем на творчую сталасць.

Разумеючы гэта, акцёр ужо ў першых сцэнах гранічна сканцэнтраваны, уважлівы да слова, жэсту. І тут, як гэта даволі часта бывае, залішняя стараннасць, на нашу думку, абарочваецца супраць выканаўцы. У манументальна яркім афармленні Кісельнікаў — Дубаў выглядае мітуслівым. Ён бянтэжыцца не так ад сітуацыі, як ад комплексу непаўнацэннасці. Так, прынамсі, успрыняў яго я ў часе грамадскага прагляду «Багны». Мабыць, акцёр вызваліцца ад гэтага, бо ў далейшых сцэнах ён дэманструе багатую на псіхалагічна-эмацыянальныя фарбы ігру. А ў трэцяй, самай драматычнай у п'есе і самай удалай па гучанні ў спектаклі, дасягае высокага драматызму і ўзрушае залу тэмпераментам. У фінале гэтай карціны, пасля адыходу Невядомага, які прымусіў яго зрабіць падлог у судовым дакуменце, словы Кісельнікава — «Маменька, а я злачынец... уталоўны злачынец!» — узмоцненыя музычным акордам, набываюць сапраўдны трагізм.

Эвалюцыя характару Кірыла адбываецца ў непасрэднай сувязі і пад уздзеяннем перш за ўсё жонкі Глафіры і бацькі яе Бараўцова. Удзельная вага кожнага з іх у гэтым працэсе не аднолькавая. Калі Бараўцоў на працягу ўсяго дзеяння спадарожнічае Кісельнікаву, як чорны цень, праследуе сваю ахвяру, то Глафіра з'яўляецца толькі ў дзвюх сцэнах. Пэўная статычнасць персанажа не магла не праявіцца ў ігры маладой артысткі Г. Бальчэўскай у гэтай ролі. Добрага слова яна заслугоўвае за дакладнасць сцэнічнага малюнка і тактоўную стрыманасць. Далейшая праца над вобразам павінна быць сканцэнтравана над больш глыбокай унутранай матывіроўкай паводзін Глафіры, над ускрыццём прычын такіх, а не іншых адносін да Кісельнікава.

**Зусім лагічна і апраўдана рэжысёр будуе спектакль паводле прынцыпу драматычнай хронікі. Кожнай сцэне (іх чатыры ў спектаклі) папярэднічае спраецыраванае на экран паведамленне аб тым, колькі часу прайшло пасля папярэдняй, кожная сцэна мае свой дзейсны стрыжань, развіццё і кульмінацыю. Мне здалося, што не ўсе яны дастаткова пераканаўчыя па думцы і па адчуванні «свайго месца» ў канфлікце кожным персанажам.**

Другая сцэна «Багны» з'яўляецца паваротнай у фарміраванні псіхалагічнага малюнка ролі Кірыла Кісельнікава. Тут адбываецца пералом у яго жыццёвых перакананнях, тут ён, што называецца, зламаўся пад цяжарам абставін, не вытрымаў выпрабаванняў. Але гэта не вонкавы працэс, ён ідзе не адкрыта, а ў душы героя. Варта было б сканцэнтраваць усю ўвагу ўдзельнікаў сцэны на раскрыцці таго, як разбураюцца ілюзіі Кісельнікава, як ён уцягваецца ў «багну». Такому раскрыццю ў значнай меры замінае празмерная стракатасць мізансцэн, пэўнае здрабненне паводзін Пуда Кузьміча Бараўцова (А. Шэлег), Лупа Лупавіча Пераяркава (А. Трус), Іоны Іонавіча Турунтаева (Ц. Сяргейчык), Аксінні (Т. Скудная), і гэтыя персанажы як бы разбіваюць наша цэласнае ўспрыняцце галоўнай падзеі.

Намер рэжысёра зразумелы — ён паказвае, якія далёкія па духоўнай сутнасці Кісельнікаў і «іншыя». Дык жа ён калісьці сам абраў гэтае асяроддзе, жыве сярод іх, яму і ім здаецца, што «ўсё» будзе наладжана. Калі б гэтага не было, не было б і трагедыі героя.

Добра, што бліжэй да фіналу другой сцэны рэжысёр смела выводзіць на прасцэніум Кісельнікава і Пагуляева, робіць акцэнт на гаворцы паміж духоўнымі саюзнікамі, а потым, вяртаючы героя да «іншых», будуе наогул яркую мізансцэну-метафару: Кісельнікаў з'яўляецца як бы перад вайсковым строем варожых яму людзей... Паўза.. Гасне святло... Заслона.

Такіх мясцін у першай палове спектакля магло б быць пабольш!..

Спынюся на ігры А. Шэлега. Акцёр заўжды вельмі ўважлівы да знешняга малюнка ролі і сацыяльнай характарыстыкі. Застаўся верным выканаўца сваёй манеры і ў «Багне». Яго Бараўцоў у меру крывадушны, у меру праг-

ПРАБЛЕМЫ. МЕРКАВАННІ. РОЗДУМ

# ЁСЦЬ ЯШЧЭ НЕСКАРЫСТАНАЕ,

## АБО ЯК ПАЛЕПШЫЦЬ КІНААБСЛУГУ НАСЕЛЬНІЦТВА

П. БЯЛЯЎСКІ,
старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі.



У ДЫРЭКТЫВАХ XXIV з'езда КПСС сказана: «...развіваць сетку кінатэатраў і кінаўстановак».

Кароткі лаканічны радок. Але ў ім — цэлы комплекс праблем, складаных і вострых. Вырашэнне іх зводзіцца да клопатаў аб будучых кінагледачах, аб тым, каб кіно глыбей сцвярджала ідэалы камунізма ў жыцці, каб больш было аматараў айчыннага кінематографа, каб усё лепшае, створанае савецкімі майстрамі кіно, адразу ж ішло на экраны і з экранаў выхоўвала савецкіх людзей.

Усведамляючы гэту важную ролю ў выхаванні чалавека, беларускія кінафікатары летась працавалі над суцэльнай кінафікацыяй рэспублікі: будавалі новыя стацыянары, укаранялі ў кінапракат сучасныя тэхнічныя сродкі. Для нас вельмі важна і радасна, што план першага года дзевятай пяцігодкі кінасетка і пракат рэспублікі выканалі, нягледзячы на тое, што цэлы шэраг буйных кінатэатраў у Бабруйску, Наваполацку, Маладзечне і іншых гарадах стаялі на капітальным рамонце. За гэты год мы, акрамя таго, абсталявалі 235 кінаўстановак, пабудавалі дзевяць кінатэатраў на 4350 месц і сярод іх — шырокафарматны кінатэатр «Сучаснік» у Мінску на 800 месц, шырокаэкранныя кінатэатры ў Дзяржынску, Кіраўску, Шаркоўшчыне, Валожыне, у гарадскіх пасёлках Васілевічы і Ула. Вядзём наладачныя работы ў шырокафарматным віцебскім кінатэатры «Беларусь». Кінатэатр вялікі — на 1100 месц.

За год у сельскую кінасетку мы перадалі 920 новых кінапраектараў, 1200 пласцікатных экранаў, 55 аўтамабіляў, многа іншага абсталявання, а гэта дазволіла пераабсталяваць 230 кінаўстановак. Больш як 300 — пераабсталявалі для паказу шырокаэкранных фільмаў. Дарэчы, цяпер колькасць шырокаэкранных кінаўстановак на сяле дасягнула 3 250.

Такім чынам, на вёсцы значна павялічылася колькасць клубаў і палацаў культуры з новай кінаапаратурай, якасць кінапаказу ў іх не горшая, чым у лепшых гарадскіх кінатэатрах.

І ўсё ж першы год пяцігодкі выявіў пралікі і недахопы ў нашай рабоце, а значыць — рэзервы і шляхі паляпшэння кінаабслугі насельніцтва рэспублікі. Яны перш за ўсё — у ліквідацыі няроўнасці паказчыкаў работы кінаўстановак, прытым галоўным чынам — на сяле. Толькі дзве вобласці, Брэсцкая і Мінская, справіліся з планавай абслугай сельскіх гледачоў. Значыць — ёсць над чым падумаць.

Па-ранейшаму трывожыць няроўная работа кінаўстановак Гомельскай вобласці, нізкая якасць паказу фільмаў. Да гэтага часу большасць населеных пунктаў тут абслугоўваецца кінаперасоўкамі на вузкай плёнцы, і гэта значна зніжае якасць паказу. У той жа час мала што робіцца, каб удасканальваць кінасетку, стацыянаваць яе. Калі за пяць гадоў колькасць стацыянараў па рэспубліцы ўзрасла на 61 працэнт, то ў Гомельскай вобласці — толькі на 37.

Пры такім становішчы кожная размова пра культуру кінаабслугі траціць сэнс. А магчымасці і ўмовы ў вобласці самыя спрыяльныя. Гэта пацвярджае вопыт работы кінафікатараў суседніх Лунінецкага і Жыткавіцкага раёнаў.

За пяцігодку сельская кінасетка Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці вырасла з 21 стацыянара да 56, што дало магчымасць замяніць 13 вузкаплёначных кінаперасовак. Сёння з 73 населеных пунктаў 65 маюць стацыянары. Для абслугі дробных населеных пунктаў абсталявана аўтакінаперасоўка. Стацыянаванне дазволіла вырашыць многія праблемы, у тым ліку і такую, вельмі важную для нас, як замацаванне кінамеханікаў на вёсцы.

Побач з Лунінецкім раёнам — Жыткавіцкі, у Гомельскай вобласці. Справы тут ідуць зусім інакш. За гэты ж час абсталявана ўсяго восем сельскіх стацыянараў, ды і то шэсць з іх працуюць на вузкай плёнцы, у клубах. Адсюль і вынікі: Лунінецкая сетка паспяхова выканала гадавое планавае заданне, а Жыткавіцкая — на 66,5 працэнта.

Вось такія раёны, як Жыткавіцкі, і падводзяць Гомельскую вобласць, якая недадала 178 тысяч рублёў валавога збору, амаль на 67 тысяч рублёў зменшыла збор у параўнанні з 1970 годам.

Дрэнна працуе на вёсцы і Гродзенскае абласное ўпраўленне кінафікацыі. А менавіта ж сельскі глядач складае тут амаль палавіну аматараў кіно.

Не сакрэт, што сельскі глядач адрозніваецца ад гарадскога. Аднак і ён стаў больш патрабавальны. Ён чакае лепшых айчынных кінастужак, хоча, каб яны дэманстраваліся не пазней, чым у горадзе. Адным словам, ён патрабуе якаснага паказу, якаснага фільма, якаснай залы.

Самай неадкладнай і надзённай праблемай у кінаабслузе сяла застаецца вузкая плёнка з яе вельмі абмежаванымі магчымасцямі пракату. Калі летась наш фільмафонд папоўніўся 259 назвамі або 5 824 копіямі мастацкіх поўнаметражных фільмаў на 35-міліметровай плёнцы, дык на вузкай, 16-міліметровай, толькі 73 назвамі. З году ў год колькасць вузкаплёначных фільмаў памяншаецца. Маючы на ўвазе, што 60 працэнтаў сельскіх населеных пунктаў рэспублікі абслугоўваецца кінаперасоўкамі, абсталяванымі кінапраектарамі для вузкай плёнкі, можна ўявіць нашы рэзервы і тое, якія новыя перспектывы могуць адкрыцца перад кінафікатарамі ў сельскай мясцовасці.

Мы павінны глядзець на прыток

# ПРА ЎВАГУ І СТАРАННАСЦЬ

ВЕРШЫ М. Някрасава на беларускую мову пераклалі таленавітыя паэты і перакладчыкі. Не толькі з павагі да старэйшыны беларускай паэзіі і перакладу Янкі Купалы ў першую чаргу хочацца сказаць пра ягоныя пераклады дзвюх песень з манументальнай паэмы «Каму на Русі жыць добра» — «Салёнай» і «Галадоўліцы»: яны сапраўды выдатныя, у іх беражліва захаваны і па-майстэрску ўзноўлены сэнс, лексіка, а галоўнае—дух гэтых горкіх сялянскіх галашэнняў. Зрэшты, тут, відаць, трэба сказаць, што занадта блізкія былі іх матывы душы і творчасці самога Янкі Купалы.

Сярод іншых перакладчыкаў старэйшага пакалення нельга не адзначыць М. Лужаніна. Яго пераклад славутага «Рыцара на час», бадай, самы ўдалы ў кнізе «Лірыка». Ад першага да апошняга радка — усё «някрасаўскае»: рытм, лексіка, музыка, пераходы ад аднаго памера да другога і г. д.

Удумліва перакладае вершы Някрасава і Я. Семяжон. Асабліва ўдаўся яму пераклад верша «Надрываецца сэрца ад мукі», вельмі важнага для разумення сутнасці творчасці вялікага паэта.

Няма нічога нечаканага ў тым, што ўдаліся пераклады і маладому А. Разанаву, які і ў сваёй творчасці вылучаецца патрабавальнасцю да сябе, увагай да кожнага слова. У перакладчыка ёсць, бадай, толькі адзін недагляд: у перакладзе «Наследаванне Шылеру» трэба было, мне думаецца, абавязкова пакінуць «стих, как монету, чекань» — вельмі ўжо наглядны, «прадметны» гэты вобраз, дзеля яго можна было чымсьці і ахвяраваць, бо «верш, быццам звон, вылівай» — гэта ўсё-такі трохі іншае патрабаванне да верша.

Добрае ўражанне пакідаюць і пераклады А. Звонака («На Радзіме»), У. Шахаўца («Тры элегіі»), А. Русецкага («Неўзабаве з жыццём развітанне...»): да іх, як кажуць, «не падкапаешся», яны выкананы дыхтоўна і чыста, з павагай да паэта і да сваёй працы.

Пералік удач можна было б прадоўжыць добрай паловай іншых, не названых тут вершаў, але ў іх перакладах сустракаецца нешта такое, што засмучае. Пра гэта і хочацца пагаварыць.

Існуюць два пункты погляду на праблему, якім чынам наблізіцца да арыгінала ў максімальна магчымай ступені. Адны сцвярджаюць, што вырашэнне праблемы — мэта ў максімальным набліжэнні і ўзнаўленні ўсіх элементаў арыгінала. Іншыя настойваюць на творчым пераасэнсаванні і пераапрацоўцы яго, што адкрывае шлях да «верша па матывах». Усё гэта мае таксама сэнс, асабліва ў дачыненні да перакладаў з «замежнай», далёкай мовы. Што ж датычыцца перакладаў з родасных моў, дык тут, мне здаецца, дзвюх думак быць не можа: толькі дакладнасць, толькі максімальнае набліжэнне да арыгінала. Калі я, беларускі чытач, ведаю вершы Някрасава ў арыгінале, дык, натуральна, мне хочацца, каб і па-беларуску яны гучалі гэтак жа.

Пагрэшнасці супраць гэтага правіла пачынаюцца з таго, з чаго пачынаецца паэзія, са слоў, з лексікі. Мадэрнізацыя, адсябяціна тут недапушчальныя. Калі, напрыклад, Я. Семяжон радкі

> Но люблю я, весна золотая,
> Твой сплошной, чудно-смешанный шум...

перакладае:

> Але ўсё ж я люблю твой бясконцы,
> Дзіўна зладжаны пошум, вясна...,

то гэта не выклікае ніякіх пярэчанняў, гэта дакладны пераклад. Калі ж А. Лойка, перакладаючы «На Волзе», замест «другой, с болезненным лицом» піша «бурлак— сухі, адзін шкілет», дык тут можна толькі здзівіцца: адкуль «шкілет», чаму «шкілет»? Горш таго: радок «я бредил. Няню испугал» А. Лойка перакладае: «я трызніў. Няньку, нібы псіх, спалохаў». Даруйце мне, але такі пераклад не задаволіць патрабавальнага чытача.

Добра пераклаў А. Вярцінскі «На смерць Шаўчэнкі», але чаму знікла гіпердактылічная рыфма другога і чацвёртага радкоў першай страфы, якая стварала якуюсьці асабліва самотную і ў той жа час едкую, злую інтанацыю:

> Не предавайтесь особой унылости:
> Случай предвиденный, чуть не желательный...

«Вынік прадбачаны, ледзь не жаданы» — пераклаў А. Вярцінскі. Радок, перадаючы дакладна сэнс, інтанацыі не перадае, яго своеасаблівасць знікае. Магчыма, гэта не вельмі істотна — усяго адзін склад прапаў? Не, у паэзіі істотна ўсё і асабліва тое, што вылучае радок з мноства да яго падобных.

Але гэта яшчэ паўбяды. Асабліва засмучэнне выклікаюць выпадкі, калі недастаткова беражліва перакладаюцца агульнавядомыя, хрэстаматыйныя вершы. Блізкія мовы—сябры-ворагі, і перад Г. Бураўкіным пры перакладзе «Што ні год—памяншаюцца сілы» стаяла вельмі цяжкая задача захаваць вось гэты жалобны ўскрык «Мать-отчизна! дойду до могилы» — эмацыянальны цэнтр усёй страфы. «Край мой родны!», як пераклаў наш паэт,—і вузей, і безабліччней, і сушэй, і ўвогуле без «матери» тут абысціся, здаецца, нельга.

Музыка страфы, як усялякая іншая музыка, складаецца з эмацыянальна-сэнсавых гукаў і паўз. Думаецца, што гукі пры перакладзе варта абавязкова захаваць, а паўзы можна злёгку і перарабіць. Напрыклад:

> Ни звука из ее груди,
> Лишь бич свистал играя...
> И Музе я сказал: «Гляди!
> Сестра твоя родная!»

Увесь сэнс — у першым і чацвёртым радках, уся «важкасць» сэнсу — у слове «родная». Яго і трэба пакласці ў аснову перакладу, усё астатняе павінна «працаваць» на яго. Сэнс тут зусім акрэслены: сцвярджэнне сувязі паэзіі з лёсам сялянства. М. Лужанін, нам здаецца, зрабіў усё магчымае для таго, каб пакласці гэтае найцяжэйшае для перакладу чатырохрадкоўе, але... У яго радках

> І Музе я сказаў: «Глядзі!
> Сястру тваю караюць!»

акцэнт усё-такі перанесены: пазбаўленая азначэння «родная» слова «сястра» нібы адышло ў цень, а на першае месца выйшла вядомая яшчэ па першай страфе інфармацыя «караюць».

У іншых выпадках неахайнасць, аб якой не дае падстаў гаварыць М. Лужанін, прыводзіць да страты сэнсу ўвогуле. Перакладаючы хрэстаматыйнага «Школьніка», Р. Барадулін не знайшоў рыфму, і радок «стал разумен і велик» у яго перакладзе гучыць так:

> Па сваёй і боскай волі
> Зразумеў, як свет вялік.

І яшчэ адно: «внимая ужасам войны» Р. Барадулін перакладае, пераасэнсоўваючы,— «калі дыхне вайна жуды», гэта значыць, ужывае будучы час, у той час як у вершы гаворка ідзе аб канкрэтнай, Крымскай вайне 1853—56 гадоў.

Урэшце, аб музыцы верша, аб неабходнасці яе захавання ў новым гучанні. Някрасаўскі верш надзвычай ясны, просты і натуральны. Разам з тым паэт надаваў велізарнае значэнне знешняй апрацоўцы радка. Успомнім:

> Душно! без счастья и воли
> Ночь бесконечно длинна!
> Буря бы грянула, что ли?
> Чаша с краями полна.

Гэта сама дасканаласць, паўтарыць яе, канечне, немагчыма. Ад перакладчыка патрабавалася захаваць сэнс і з ім — энергію, інакш будзе не заклік, не страсная прага рэвалюцыі, а пажаданне яе ў лепшым сэнсе і ныццё — у горшым. Прыблізна так і атрымалася ў А. Русецкага:

> Душна, без волі — панура,
> Ноч гэта будзе дакуль?
> Хай бы ўжо грымнула бура:
> Чаша запоўна пакут!

З роднаснай мовы добра перакладаць не так лёгка, як гэта здаецца недасведчаным, бадай, нават цяжэй. Але — магчыма. Прыклады ёсць, і іх шмат. Помніцца, сэрца замірала ад чакання: як пераклаў А. Куляшоў славуты радок М. Лермантава «И звезда с звездою говорит...». Ці справіўся? Прачыталі:

> Зорка зорцы голас падае...

Уздыхнулі з палёгкай!

Паэзія, якая перакладае на сваю мову іншую паэзію, не аказвае ёй, іншай, паслугу, а толькі ў адзінаборстве з ёй выяўляе моц сваіх мускулаў—сваю сталасць, сваю мудрасць.

**Ф. ЯФІМАЎ.**

М. А. Някрасаў. «Лірыка». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1971.

# ТРЭЦЯЯ СУСТРЭЧА

ГАВОРАЧЫ пра пісьменнікаў, мы часта любім ужываць выраз: пісьменнік са сваім творчым абліччам. Гэты выраз чамусьці зусім не ўжываецца, калі гутарка ідзе пра крытыкаў і літаратуразнаўцаў. А менавіта такая думка напрошваецца, калі чытаеш трэцюю кнігу Г. Кісялёва — «Загадка беларускай «Энеіды».

І для новай кнігі Г. Кісялёва ўласцівы тыя лепшыя якасці, якія характарызавалі першыя дзве: багацце архіўных матэрыялаў, а, значыцца, і дакументальнае абгрунтаванне кожнай, нават другараднай, падзеі, кожнага факту. Факты ж пададзены так па-майстэрску, што чытаеш нібыта не навуковую работу, а цікавы раман.

Тэме сваёй Кісялёў не здрадзіў. XIX стагоддзе — гэта той перыяд, дзе даследчык адчувае сябе, як рыба ў вадзе. Праўда, раней Кісялёва больш цікавіла другая палавіна XIX стагоддзя, тут жа ён некалькі пашырыў храналагічныя рамкі сваіх пошукаў, звярнуўся да фактаў і першай, і другой палавіны.

Большую частку кнігі займае праца «Загадка беларускай «Энеіды». Даследчык вырашыў усебакова, на аснове архіўных матэрыялаў, прасачыць, дзе і калі была вядома ««Энеіда», хто ёю цікавіўся, што пра яе гаварылі сучаснікі, каб такім чынам прыйсці да пэўнай высновы: хто ўсё ж быў аўтарам гэтага твора.

Верагоднымі прэтэндэнтамі на аўтарства лічыліся два чалавекі: віцяблянін Манькоўскі і смалянін Равінскі. Кожны з даследчыкаў, які звяртаўся да гэтага твора, аддаваў перавагу або аднаму, або другому.

Кісялёў таксама ў пачатку не ставіць канкрэтнага пытання: хто ж аўтар. Ён разгортвае перад чытачамі цэлую панараму грамадскага і культурнага жыцця на землях Усходняй этнаграфічнай Беларусі — галоўным чынам Віцебшчыны і Смаленшчыны, дае характарыстыку грамадскай і навуковай дзейнасці тых людзей, якія мелі хоць у нейкай ступені адносіны да паэмы.

Кола пытанняў, звязаных з «Энеідай», даследчык узняў вельмі шырока. Пазней жа гэтае кола ён усё больш і больш звужае, пакуль, нарэшце, не прыходзіць да больш канкрэтнага вывазу. Так, вельмі цікава Г. Кісялёў расказвае пра І. Манькоўскага, аднаго з верагодных аўтараў. Манькоўскі — перадавы беларускі шляхціц першай палавіны XIX стагоддзя, ён жыва цікавіўся роднай культурай, удзельнічаў у грамадскім жыцці Віцебшчыны. Адным словам, гэта чалавек, які патэнцыяльна мог быць аўтарам паэмы. І ўсё ж даследчык робіць катэгарычны вывад, што Манькоўскі не быў аўтарам паэмы, ён быў толькі яе папулярызатарам, распаўсюджвальнікам. Супраць аўтарства Манькоўскага ёсць некалькі важкіх аргументаў і сярод іх адзін з самых значных — мясцовы каларыт твора. Кісялёў за кожным радком з мясцовым каларытам імкнецца ўбачыць тагачаснае жыццё, мясцовыя звычаі. У выніку ён прыходзіць да бясспрэчнага вываду, што паэма ўзнікла на Смаленшчыне.

Але на падставе толькі гэтага нельга было безагаворачна прыпісваць паэму В. Равінскаму, хоць ужо даўно яго называюць адным з магчымых аўтараў. Кісялёў зноў звяртаецца да архіўных матэрыялаў. Ён падрабязна расказвае пра род Равінскіх, іх грамадскія погляды, кола інтарэсаў і г. д. Таму і чытач можа добра пазнаёміцца з Равінскімі і, што асабліва важна, з асобай Вікенція Равінскага. Вельмі цікавыя для нас сёння і ўспаміны Канстанціна Равінскага, унука Вікенція. У сваіх успамінах Канстанцін неаднаразова прыгадвае, што аўтарам «Энеіды» быў менавіта яго дзед Вікенцій. Сведчанне Канстанціна Равінскага, выказванні сучаснікаў, нарэшце, сама асоба В. Равінскага, прагрэсіўнага чалавека, добрага знаўцы беларускай мовы — усё гэта бясспрэчныя доказы, што аўтарам «Энеіды» быў ён, В. Равінскі.

Больш таго, Кісялёў змог знайсці звесткі, што пяру В. Равінскага належалі і іншыя значныя творы, у тым ліку сатыра «Вялікі муж субардынацыі», камедыя ў вершах «Шлюб паняволі» і інш. Гэтыя творы не адшуканы, які іх сёння лёс — невядома.

Што ж да недахопаў, то іх няма там, дзе Кісялёў займаецца архівамі, дзе абапіраецца на дакументы. У тых жа мясцінах, дзе аўтар адыходзіць ад тэмы свайго даследавання, ён часамі збіваецца на разважанні, якія выклікаюць калі не пярэчанне, то недаўменне, адчуванне, што тут не ўсё на месцы. Напрыклад, гаворачы пра Рэч Паспалітую XVII — XVIII стагоддзяў, Кісялёў неаднаразова называе яе польска-літоўскай дзяржавай. Але агульнавядома, што літоўцы пасля Люблінскай уніі былі ў такім жа бяспраўным становішчы ў дзяржаве, як і беларусы з украінцамі, што літоўская мова і культура падвяргаліся ганенню з боку Польшчы гэтак жа, як і беларуская з украінскай.

Не менш цікавай атрымалася і другая частка кнігі Г. Кісялёва, якая прысвечана беларускаму пісьменніку Арцёму Вярыгу-Дарэўскаму, да творчасці якога (прынамсі той, якая захавалася) у нас яшчэ ніхто не звяртаўся. Генадзь Кісялёў і тут ідзе сваім улюбёным шляхам. Ён імкнецца расказаць як мага больш поўна пра Вярыгу і яго акружэнне, выходзячы перш за ўсё з архіўных матэрыялаў. І, зразумела, тут даследчыку спадарожнічае поспех.

Хто такі Вярыга-Дарэўскі, як да яго ставіліся сучаснікі, у чым бачылі яго заслугі перад роднай культурай — з гэтага Кісялёў пачынае сваё даследаванне. Тут ён вельмі шмат увагі ўдзяляе Адаму Кіркору, адной з найбольш значных фігур у тагачасным культурным жыцці беларускіх земляў. Даследчык разглядае інтэнсіўную перапіску Кіркора з Вярыгам напярэдадні паўстання, расказвае пра творчыя планы Вярыгі, пра яго жаданне надрукаваць у газеце «Тэка віленьска», якую рэдагаваў Кіркор, свае беларускія творы. Бясспрэчна тое, што Кіркор увесь час лічыў сябе беларусам, што ён імкнуўся распаўсюджваць беларускія творы, хоць магчымасці для гэтага ў яго былі вельмі абмежаваныя.

Вядома і тое, што погляды на пытанні грамадскага жыцця ў Вярыгі і Кіркора былі некалькі розныя, гэта і выявілася пазней. Кіркор — ліберал, ён за рэформы, пры дапамозе якіх можна было б палепшыць жыццё, дабіцца хоць элементарнай магчымасці для развіцця беларускай культуры.

Шлях жа Вярыгі-Дарэўскага прывёў яго ў рады паўстанцаў 1863 г., а потым па этапе ў Сібір, дзе ён і знайшоў сабе магілу. Але ж досыць доўгі час яны ішлі поплеч. Ды і пасля, калі іх дарогі разышліся, у адным гэтыя людзі заўсёды былі

Г. Кісялёў. «Загадка беларускай «Энеіды». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1971.

# ЁН ШТУРМАВАЎ ЗІМНІ

*ДА 80-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ А. ГУРЛО*



У КАПЫЛІ на рагу Какорыцкай вуліцы і Садовай пад высокімі бярозамі і клёнамі стаяла калісь невялікая драўляная капліца, а крыху далей у двары — хата на дзве палавіны. Гэта ў Кандрата Гурло, якога па-вулічнаму называлі Канавал (ён крыху разбіраўся ў ветэрынарных справах), часта паміралі ад сухотаў дзеці. Ён ахвяраваўся і пабудаваў на сваім двары, што выходзіў на скрыжаванне вуліц, капліцу. Бог не прыняў ахвяру і яшчэ ў маладым веку забраў жонку Кандрата, але два сыны і дачка перажылі бацьку.

Некалькі гадоў хата каля капліцы ўваходзіла ў маю пастухоўскую «парафію» (я быў недалёкі сусед, наша сядзіба знаходзілася таксама на Какорыцкай вуліцы). Тут, у малодшай сястры Настассі, улетку часта гасцяваў Алесь Гурло. Прыйдзеш выганяць ранічкаю карову, а паэт ужо сядзіць на ганку ці тупае на панадворку. У памяці застаўся яго прыгожы хударлявы твар, цёмныя валасы і маленькія вусікі; высокі ростам, хадзіў накульгваючы. Ён некалькі разоў запыняў мяне, распытваў, чый я, у якім класе вучуся... Не ведаў тады капыльскі пастушок, што яму прыйдзецца пісаць пра свайго земляка...

Нялёгкую жыццёвую і творчую дарогу прайшоў вядомы беларускі паэт Алесь Кандратавіч Гурло. Сын беднага малазямельнага селяніна вучыўся ў мясцовай чатырохкласнай школе, зарабляў падзённай работай. Пасля ў пошуках кавалка хлеба пакінуў родны Капыль і падаўся ў далёкі Пецярбург, дзе працаваў на заводзе «Вулкан». У сталіцы ён пасябраваў са старэйшымі капылянцамі Змітром Жылуновічам (Цішкам Гартным) і Хведарам Станілевічам. Неўзабаве А. Гурло быў прызваны ў царскую армію і трапіў на Балтыйскі флот, служыў матросам на крэйсеры «Багатыр», а пасля заканчэння школы малодшых унтэр-афіцэраў працягваў службу на эсмінцы «Забияка». Потым вайна, удзел у баях каля Рыжскай затокі і вострава Эзель, цяжкае раненне. Колішні член Капыльскай арганізацыі РСДРП трапляе ў самы вір рэвалюцыйных падзей. А. Гурло, знаходзячыся ў Рэвелі (Таліне), у лютаўскія дні 1917 года прымае чынны ўдзел у маніфестацыях і выступленнях матросаў.

У векапомныя кастрычніцкія дні 1917 года на долю Алеся Гурло выпала шчасце прыняць непасрэдны удзел у баях на вуліцах Петраграда. Ваенны аддзел рэвалюцыйнага Цэнтрабалта даў загад матроскім камітэтам эскадранных мінаносцаў «Забияка», «Самсон», «Меткий» і «Страшный» пакінуць Гельсінфорс і раніцай 25 кастрычніка 1917 года ўзяць курс на сталіцу, каб дапамагчы паўстаўшаму пралетарыяту. Пад вечар 25 кастрычніка эсмінцы «Забияка» і «Самсон» увайшлі ў Няву і пачалі высадку баявых атрадаў. На бераг з вінтоўкаю ў руках сышоў і Алесь Гурло. Яму выпала разам з чырвонагвардзейцамі і матросамі штурмаваць Зімні палац. У вершы «Ленінград» ён, успамінаючы той незабыўны час, пісаў:

**Астаўся памятны навекі**  
**Вялікі дзень вялікіх дзей,**  
**Калі знішчаў прыгнёт і здзек я**  
**І сведкам быў усіх падзей...**

Пасля ўстанаўлення Савецкай улады ў Петраградзе атрад рэвалюцыйных матросаў з эскадраннага мінаносца «Забияка» ваяваў у складзе караблёў Волжскай флатыліі, прымаў удзел у падаўленні эсэраўскага мецяжу ў Яраслаўлі, змагаўся з Калчаком і чэхаславацкім корпусам. Цяжкая рана прымусіла пакінуць матроскую службу ў дзеючай арміі і працаваць у Ніжне-Наўгародскім рачным порце. Толькі ў 1921 годзе паэт вярнуўся ў родную Беларусь і цалкам аддаўся літаратурнай і навуковай (ён доўгі час працаваў у тэрміналагічнай камісіі АН БССР) рабоце. Памёр Алесь Гурло 4 лютага 1938 года.

Першыя вершы Алесь Гурло друкуе на старонках «Нашай нівы» яшчэ ў 1909 годзе, калі жыў у родным Капылі. У ранніх вершах малады паэт не выходзіць з кола сялянскай тэматыкі («Ворыва», «Полудзень пры жніве»), ён увесь у няясных парываннях «долі і шчасця прыждаць» («Хмары на небе»). Аднак у яго дарэвалюцыйных творах усё часцей і мацней гучыць вера ў народныя сілы, ён сваёй песняй робіць пабудку ад векавечнага сну («Мая песня», «Не тужы»).

Побач з матывамі сялянскай нядолі, побач з творамі пра чалавека працы і змагання ў рэвалюцыйнай паэзіі А. Гурло вылучаецца сваёй бадзёрасцю і роздумам цыкл вершаў пра мора. Трапіўшы на службу ва флот, беларускі паэт пазнаёміўся з неспакойнай і бурлівай марской стыхіяй і адчуў дружбу і згуртаванасць матроскай сям'і:

**Нам не страшны вецер сіверных старон,**  
**Пусцім быстра, пусцім шпарка мы свой чоўн,**  
**Хай імчыцца, хай калышацца ад хваль —**  
**Неўзабаве нам зазззяе шчасцем даль.**  
**(«Заблішчалі ў цёмнай далі маякі»)**

Спадзяванні паэта спраўдзіліся: пасля Кастрычніка заззялі шчасцем беларускія прасторы, пачалося дзяржаўнае будаванне маладой рэспублікі. А. Гурло славіць творчую працу савецкага чалавека, бачыць, як мяняецца аблічча роднага краю, радуецца першым крокам культурнага будаўніцтва («Бацькаўшчыне», «Змаганне за жыццё», «Беларускаму універсітэту» і інш.).

У вершах Алеся Гурло, напісаных у 20-я гады, няма рыторыкі і маладнякоўскай «бурапеннасці». Паэт умеў праз канкрэтны факт, мастацкую дэталь перадаць каларыт непаўторнага часу, велічных падзей. Таму нават заводская, урбаністычная тэма («Завод», «Раніца», «Люблю я фабрык пераклічку», «Думкі рабочага», «Асенні досвітак») арганічна ўвайшлі ў яго паэзію, напоўненую бадзёрымі рытмамі стваральнай працы.

А. Гурло разумеў і адчуваў хараство беларускай прыроды: тут і непаўторная ў сваёй красе зіма, якая асабліва часта прыцягвае ўвагу паэта («Хіба ў зіме», «Завілася мяцеліца», «Заснежыў снежань»), і вясна ў сваіх цудоўных праявах («Пралескі», «Зацвілося»), і залатая восень («У лесе»).

Аднак самае істотнае і цікавае ў паэзіі Алеся Гурло — яго лірычнае хваляванне, пачуцці і роздум савецкага чалавека, які многае пабачыў, многае перажыў. Тут вернасць каханай, радасць сустрэчы і смутак расстання, крылатыя надзеі і хваравіты бляск вачэй, клопаты і трывогі жыцця, шчасце і творчая ўдача («Часта мне гаворыць», «Чым жа, чым?», «Ну, засмейся», «Пытаеш ты...» і інш.). Ёсць у гэтых вершах усё, апрача фальшу і падробленага суму ці бадзёрасці:

**Праплыў я шмат жыццёвай плыні,**  
**Прайшоў я шмат шляхоў, дарог...**  
**У чужых краёх, ў сваёй краіне**  
**Хадзіў к парогу, за парог...**  
**Хоць шлях пяройдзены забыты**  
**Для новых шляхаў і красы, —**  
**Вітаю дзень я сонцам зліты**  
**І новых песень галасы.**  
**(«Праплыў я шмат...»)**

Творы Алеся Гурло сабраны ў зборніках «Барвёнак» (1924), «Спатканні» (1925), «Сузор'і» (1926), «Зорнасць» (1927) і «Межы» (1929), многія яго вершы раскіданы ў часопісах 20—30-х гадоў.

У скорым часе ў серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі» выйдзе кніга Алеся Гурло. У ёй сабрана лепшае з творчай спадчыны паэта, уключаны многія вершы, якія не трапілі ў зборнікі яго выбраных твораў.

Па складзе свае паэзіі А. Гурло пераважна лірык, які ўмеў проста і шчыра выказваць свае пачуцці, свае адносіны да жыцця і прыроды. У вершах А. Гурло няма даніны розным модным для таго часу ўплывам і школам, у яго самабытнай песні чуецца свой непаўторны голас, які працягваў купалаўскія і коласаўскія традыцыі ў беларускай савецкай паэзіі. Празрыстая ўзнёсласць і веліч думкі, адшліфаванасць радка, задушэўная цеплыня пачуцця, тонкае адчуванне беларускай прыроды, замілаванасць да роднага краю, нейкая асаблівая ўлюбёнасць ва ўсё хараство,—вось лепшыя рысы паэзіі Алеся Гурло.

Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ.

# З ГЛЫБІНЬ НАРОДНЫХ

*Каб вы ведалі, як хораша спявалі калісьці ў нашай невялікай вёсцы Змяёўцы на Дзятлаўшчыне! Вось і сёння, праз столькі гадоў, мроіцца мне дзяцінства. Зажмуру вочы і бачу, як ідуць адвячоркам з-за Фаб'янавай гары жнеі і пяюць:*

*Ой, прапала мая доля,*  
*Прапала...*

*Я і цяпер знаю матыў гэтай песні і, бывае, на сяброўскай бяседзе, паміж «модных», сучасных песень, прапяю гэтую песню маіх аднавяскоўцаў, такую мілагучную і шчырую, простую і сціплую.*

*Шмат гадоў працуючы ў рэдакцыі, аб'ездзіўшы ўсе раёны роднай Беларусі, я ніколі не мінаю выпадку запісаць народную песню, тую, якая можа ніколі не прагучыць па радыё, якую яшчэ не выконваў ніякі вядомы харавы калектыў.*

*Сёння я прапаную ўвазе чытачоў некалькі народных песень, запісаных у розных кутках рэспублікі.*

Віктар ШЫМУК.

## Ў ПАНЯДЗЕЛАК ЧУЦЬ СВЯТОЧАК

**У панядзелак чуць святочак**  
**Пойдзем ў поле працаваць.**  
**На калгасным мы лужочку**  
**Будзем сена сенаваць.**

**Ў тым зялёненькім лужочку**  
**Мы цвяточкаў сабяром.**  
**Мы забылі сваё гора,**  
**Эй, да песенькі пяём.**

**Ў тым зялёненькім садочку,**  
**Дзе растуць малінкі**  
**А ў садочку, халадочку,**  
**Зробім мы дажынкі**

Запісана ад калгасніцы вёскі Лаўрышава Навагрудскага раёна Ніны Мікалаеўны Лаўнікевіч.

## ЛЮБІЎ МЯШЧАН МЯШЧАНАЧКУ

**Любіў мяшчан мяшчаначку,**  
**Хацеў яе ўзяці.**  
**Яна яму адказала,**  
**Што не ўмее жаці.**

**Я ў бацькі не жала**  
**І ў цябе не буду.**  
**Зраблю сабе халадок**  
**І сядзеці буду.**  
**Я ў тым халадку**  
**Спраду на сарочку.**

**Мне вароны аснуюць,**  
**А сарокі выткуць.**  
**А белыя лебядзі**  
**Ды й выбеляць на вадзе,**  
**А марскія пташкі**  
**Пашыюць рубашкі.**

Запісана ад жыхаркі вёскі Ізабелін Ваўкавыскага раёна Васілісы Сямёнаўны Бакач.

## ОЙ ЦЯЖКА МНЕ

**Ой цяжка мне, важка**  
**На чужыне.**  
**Ніхто не заедзе**  
**У госці да мяне.**

**Не заедзе ані айцец,**  
**Ані маці.**  
**Адно заязджае**  
**Старшы брацец.**

**А хоць заязджае,**  
**То не сядае.**  
**Па новай святліцы**  
**Пахаджае.**

**Па новай святліцы**  
**Пахаджае.**  
**Ўсё сваю сястронку**  
**Прабуджае.**

**А сястронка ўстала**  
**Як і не спала.**  
**Абняла брацейку**  
**Ды пацалавала.**

**— Ой, калі ж ты, брацец,**  
**Больш у госці прыбудзеш!**  
**— Ой тады, сястронка,**  
**Я ў госцях буду,**

**Як сухая грушка**  
**Разаўецца,**  
**А ўбіты гасцінец**  
**Разрасцецца...**

**А сястронка ночку**  
**Не даспала.**  
**Ўсё сухую грушку**  
**Палівала.**

**Ўсё сухую грушку**  
**Палівала,**  
**А ўбіты гасцінец**  
**Раўнавала.**

**Ой, бадай гасцінец**  
**Не разросся,**  
**Як братко сястронкі**  
**Вырокся.**

**Ой, бадай ты, грушка,**  
**Не расцвіла,**  
**Як брата з сястрою**  
**Разлучыла.**

Запісана ад жыхаркі вёскі Забагонне Зельвенскага раёна Антаніны Сямёнаўны Патаповіч.

## ОЙ, ПРАПАЛА МАЯ ДОЛЯ...

**Ой, прапала мая доля,**  
**Прапала.**  
**Мяне мама за п'яніцу**  
**Аддала.**

**А п'яніца, гультаіца**  
**Ў карчме п'е.**  
**А як прыйдзе дадоманьку,**  
**Жонку б'е.**

**— Ой, прывыкай, маё дзіця,**  
**Прывыкай,**  
**Да суседа акеначкам**  
**Уцякай.**

**—Ой, як жа мне, мая маці**  
**Уцекчы!**  
**Трымаецца мой п'яніца**  
**За плечы...**

Запісана ад маці, Ганны Іванаўны Шымук.

# СПЯВАЮЦЬ ШЫРМАЎЦЫ

**ПРЭМ'ЕРА НОВАЙ ПРАГРАМЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ АКАДЭМІЧНАЙ ХАРАВОЙ КАПЭЛЫ БССР**

ЗВЫЧАЙНА пра тэатральныя прэм'еры пішуць прыблізна так: на «агеньчык» сцэнічнай рампы, як на покліч, пайшлі прыхільнікі мастацтва. А тут? Не, мы не перабольшым, сказаўшы, што мінчане ўвечары 13 лютага ішлі ў філарманічную канцэртную залу на «галасы» знаёмага і дарагога ансамбля спевакоў. Як толькі афішы абвясцілі прэм'еру праграмы, складзенай з твораў заходнееўрапейскіх і рускіх класікаў (і агульнавядомых, і тых, чые імёны сустракаюцца ў рэпертуары выканаўцаў рэдка), аматары харавых спеваў чакалі сустрэчы з харастаом, якое заўсёды абяцае Акадэмічная капэла БССР.

І яно было, гэтае хараство, яно зачароўвала, абуджала светлы настрой, прымушала зноў і зноў узрушана думаць пра веліч і прыгажосць чалавечых шуканняў, імкненняў і змагання. Па-рознаму кожны раз, але з унутранай паслядоўнасцю капэла славіла чалавека, якім яго раскрывае то сузіральна-засяроджаная, то гарачая і тэмпераментная, то лірычна-запаветная музыка. Слухачы «пазнавалі» ансамбль і па характары выканання, дзе беражліва захоўваецца строга акадэмічная манера, прадыктаваная сутнасцю абраных для праграмы нумароў. Хай сабе часам здавалася, што акадэмізм як бы затрымлівае «тэмпературу эмоцый» артыстаў, не даючы ім права на вонкавую драматызацыю або сентыментальнасць, агульнае ўражанне заставалася добрае: ансамбль, які ўмее прытрымлівацца стылявой еднасці, не можа не выклікаць павагі да сябе!

Можа капэла валодае нейкім чароўным ключыкам, які дапамагае ёй натуральна і па-мастацку ўпэўнена ўваходзіць у свет музычнага хараства? Можа галоўны дырыжор Уладзімір Раговіч разам са сваімі калегамі Яўгенам Грамыкам і Дзмітрыем Рулінскім, рыхтуючы гэтую праграму, спецыяльна рэпеціравалі так, каб акадэмічная манера выканання не гасіла эмацыянальны напал? Толькі большасць нумароў выклікала ў зале непаўторны настрой, калі слухачоў аб'ядноўвала пачуццё «ў адказ» на тое, што гучала на сцэне. А гэта, мабыць, самы хвалюючы эфект харавых спеваў, ды і наогул канцэртных выступленняў артыстаў: выканаўцы і аўдыторыя раптам зліваюцца ў адным парыванні, і гэтае суладдзе не кідаецца ў вочы, яно толькі зіхаціць і трымціць, здаецца, у «звычайным» гучанні «чарговага» нумара праграмы.

Публіка з энтузіязмам сустракала многія творы, прасіла паўтарыць іх на «біс». Так прымалася славутае і заўсёды прывабнае «Рэха» Арланда Ласа; празрыстая па настроі душы, раптам зачараванай нязвыклым станам прыроды, «Вячэрняя песня» М. Балакірава; нібы сатканая з жамчужных нітак «Мелодыя» С. Рахманінава (тут асабліва дружныя апладысменты выклікала салістка заслужаная артыстка БССР Людміла Царанкова); надзвычай трапяткая старонка музычнай лірыкі С. Танеева — «Паглядзі, якая мгла...»; прасякнуты эпічнай веліччу «Анчар» А. Арэнскага...

У знаёмых творах адкрывалася нешта заўжды свежае. Не хацелася звяртаць увагі на дробныя (але ўсё-такі крыўдныя!) агрэхі, галасы клікалі, вялі за сабой, абуджалі асацыятыўны роздум. Чалавек і прырода, чалавек і каханне, чалавек і зло — адвечныя тэмы ажывалі ў харастве спеваў. «Рэха» пацвердзіла рэпутацыю капэлы як ансамбля, здольнага віртуозна пераадольваць любую тэхнічную вынаходлівасць аўтара музыкі. Балакіраў прагучаў схільным да задуменнай паглыбленасці і да прыслухоўвання чалавека да самога сябе і навакольнага свету. У Танееве капэла і дырыжор У. Раговіч раскрываюць эмацыянальна насычаны пераход настрою ад перажывання да роздуму, перадаючы поліфанічнае багацце арыгінала. Ну, а Рахманінаў — гэта тое, што можна слухаць і слухаць, бо ансамбль і салістка нібы вяжуць карункі, у якіх ты з замілаваннем адчуваеш мяккія абрысы самой мелодыі і ўнутранага аднаго, ды вельмі магутнага, пачуцця, якое захапіла чалавека цалкам і не адпускае, не адпускае... Не папрасіць такое выкананне на «біс», як кажуць, немагчыма!

Вызваленым ад напышлівай рыторыкі і сапраўды патэтычным прадстае ў спевах капэлы класік XVIII стагоддзя Д. Бартнянскі — яго «Херувімская песня» і Пятнаццаты канцэрт («Урачыстая песня») выконваюцца як гімны, народжаныя гарачым сэрцам, дапытлівым розумам. Вакальная плынь сольных выказванняў (Людміла Лагуцёнак, Наталля Ігнатава, Альбіна Каменева, Галіна Касцюк, заслужаныя артысты БССР Міхась Шуманскі і Васіль Юневіч, артысты Яніс Кідуль і Уладзімір Туз) і магутнага хору бярэ слухачоў у вір эмацыянальнага і інтэлектуальнага ўзрушэння, раскрытага кампазітарам надзвычай ярка.

Менш удала і менш дасканала выглядала, умоўна кажучы, заходнееўрапейская частка канцэрта. Хоць і тут двойчы выконваліся, скажам, «Летуценні» Р. Шумана, але пэўная прэм'ерная скаванасць адчувалася і ў «Аве Верум» Ш. Гуно, і ў брукнераўскім хоры, дзе заўважаеш «вузельчыкі» старанна адрэпеціраваных нумароў. Мабыць, гэта і зразумела, калі ўзяць пад увагу, што калектыў «асвойвае» новыя далягляды рэпертуару. Як бы кампенсацыяй за гэта капэла натхнёна праспявала «Працы хвала!» з араторыі Г. Гендэля «Іуда Макавей», дзе партыю аргана выконваў дыпламант міжнароднага конкурсу Алег Янчанка.

ТРЭБА адзначыць, што галоўны дырыжор У. Раговіч здолеў павесці калектыў у тым жа мастацкім напрамку, які быў характэрны для Рыгора Раманавіча Шырмы. Зразумела, нельга канцэрт 13 лютага лічыць ва ўсім адпаведным лепшым дасягненням творчага мінулага капэлы. Затое сёння ўжо не адчуваецца часта хваравітага ў мастацтве пераходу ад адной творчай індывідуальнасці да другой. Для ўдасканальвання ж у артыста межаў не бывае!

**В. ШЫПІЦА.**



...Трэці званок. Апошнія заўвагі дырыжора. Уладзімір Раговіч зараз выпусціць на сцэну артыстаў...

Фота Ул. КРУКА.



## ЗАЙШЛО СОНЦА

Зайшло сонца за аконца,
За сад-вінаград.
Цалуйцеся, мілуйцеся,
Хто каму рад.
Дзяўчынанька казаку
Усю праўду сказала,
Узяла яго за ручаньку
І ў сад павяла.
Пасцяліла пасцель белу,
Зажурылася.
— Не журыся, дзяўчынанька,
Ты будзеш мая.
Ёсць у мяне бочка мёду,
А друга—віна.
Ёсць у мяне калясачка
І конь варанной,
Толькі сесці і паехаць
Да цёшчы радной.
— Здраствуй, цёшча,
Здраствуй, міла,
Добры табе дзень.
Выдай, выдай сваю дочку,
Хоць на адзін дзень.
— Мая дочка паненачка,
Як ружавы цвет,
А хто хоча яе ўзяці,
То на цэлы век.

Запісана ад маці, Ганны Іванаўны Шымук.

## А Ў ПОЛІ БЯРОЗА

А ў полі бяроза кудрава стаяла.
Хто ідзе, не мінае, бярозу ламае.
Гора таму жыці, хто пары не мае.
Гора таму жыці, хто пары не мае—
Дадому прыходзіць, адзін спаць лягае.
Да сцяны вачыма, на хату плячыма,
Да сцяны гаворыць, а сцяна не чуе:
— Хто ж мяне раздзене, хто ж мяне разуе,
Румяныя губкі сто раз пацалуе!
Адазвалась Галя ў сенях за дзвярыма:
—Я ж цябе раздзену, я ж цябе разую,
Румяныя губкі сто раз пацалую.

Запісана ад калгасніцы калгаса «Зара» Клецкага раёна Анастассі Мікалаеўны Сасіновіч.

## РАСКУШУ ГАРЭШКА

Раскушу гарэшка,
Раскушу сухога,
Быму з яго зерца,—
Выйдзі, выйдзі,
Прекрасна дзяўчына,
Пацеш маё сэрца.

Ой, мая галубка,
Сівая-сівенька
Сядзіць над ракою,
Яна умывае
Сваё бела ліца
Морскаю вадою.

Яна умывае
Сваё бела ліца
Морскаю вадою.
Яна выцірае
Сваё бела ліца
Русаю касою.

«Расці, мая каса,
Расці, мая руса,
Як у садзе вішня.
Каб я малада,
Маладзюсенька
Скора замуж вышла».

Запісана ад жыхаркі вёскі Забагонне Зельвенскага раёна Антаніны Сямёнаўны Патаповіч.

# ТУТ ВУЧАЦЬ РАЗУМЕЦЬ ПРЫГОЖАЕ

**Як працуюць універсітэты культуры Гродзенскай вобласці —гэта пытанне абмеркавалі члены секцыі літаратуры і мастацтва Рэспубліканскага савета народных універсітэтаў. Намеснік начальніка абласнога ўпраўлення культуры В. Губіч паведаміў, што сетка іх у 1971-72 навучальным годзе пашырылася. Зараз у вобласці 26 універсітэтаў культуры і 30 філіялаў у калгасах і саўгасах. Добра наладжана работа універсітэтаў культуры ў Адэльску, Дзераўной, Кайшоўцы, Турцы і іншых вёсках. Іх поспеху спрыяе актыўны ўдзел сельскай інтэлігенцыі.**

**Варты ўвагі і той факт, што цяпер у кожным раённым цэнтры ёсць свае універсітэты культуры.**

**Да работы універсітэтаў культуры прыцягваюцца лепшыя самадзейныя калектывы, народныя тэатры, хоры і ансамблі.**

**Не стаіць у баку ад гэтай справы і калектыў Гродзенскага музычнага вучылішча. Яго сіламі былі падрыхтаваны заняткі, прысвечаныя творчасці Бетховена. Ва універсітэты культуры Карэліцкага раёна выязджалі з канцэртамі духавы і баянны аркестры вучылішча. А выкладчыкі культасветвучылішча падрыхтавалі лекцыю па гісторыі савецкай музыкі, з якой таксама выязджалі ў раёны вобласці.**

**У адрозненне ад мінулых год, сёлета Беларуская дзяржаўная філармонія рэгулярна праводзіць лекцыі - канцэрты ў пяці універсітэтах культуры вобласці.**

**Думкамі аб рабоце універсітэтаў Гродзеншчыны падзяліліся старшы інспектар упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры БССР А. Карпава, прарэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі К. Сцепанцэвіч, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Ул. Стэльмах, загадчык аддзела мастацтва Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна В. Дышыневіч, начальнік упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры БССР Ж. Сінельнікава. Адзначалася, што вучэбныя планы некаторых універсітэтаў культуры вобласці складзены няўдала, без уліку новых патрабаванняў, пэўнай сістэмы, і таму работа іх нагадвае хутчэй музычна - літаратурны лекторый. Да таго ж і пастаянных слухачоў яны не маюць. Месцамі яшчэ мала аддаецца ўвагі прапагандзе выяўленчага і тэатральнага мастацтва. Варта часцей знаёміць слухачоў універсітэтаў з лепшымі творамі беларускіх літаратараў.**

**Гаварылася і аб тым, што неабходна смялей выкарыстоўваць багатыя скарбы кінапракату, на паліцах якога ёсць нямала цікавых дакументальных фільмаў па ўсіх жанрах мастацтва. За апошні час выйшла ў свет патрэбная універсітэтам культуры літаратура — па гісторыі беларускай музыкі, манаграфічныя работы аб творчасці беларускіх кампазітараў. На жаль, гэтыя выданні яшчэ не знайшлі месца ў новых праграмах універсітэтаў.**

**У заключэнне быў зацверджаны план работы секцыі літаратуры і мастацтва Рэспубліканскага савета народных універсітэтаў.**

# С. М. НАВІЦКІ

17 лютага 1972 года на 73 годзе жыцця памёр адзін са старэйшых музыкантаў - выканаўцаў рэспублікі, заслужаны артыст БССР Навіцкі Станіслаў Мамертавіч.

С. М. Навіцкі нарадзіўся 13 чэрвеня 1899 года ў вёсцы Шкіндэраўцы Самахвалавіцкага раёна.

С. М. Навіцкі прайшоў вялікі жыццёвы шлях ад рабочага папяровай фабрыкі ў Добрушы да шырока вядомага музыканта-выканаўцы рэспублікі, аднаго з арганізатараў і стваральнікаў Беларускага дзяржаўнага народнага аркестра. Усе свае сілы і здольнасці ён аддаваў справе папулярызацыі і прапаганды беларускага інструментальнага музычнага мастацтва.

Усе, хто знаў Станіслава Мамертавіча Навіцкага, назаўсёды захаваюць у сваіх сэрцах памяць пра яго, як пра таленавітага выканаўцу-цымбаліста і цудоўнага чалавека.

**Група таварышаў.**

**Міністэрства культуры БССР з глыбокім смуткам паведамляе пра смерць заслужанага артыста БССР Станіслава Мамертавіча НАВІЦКАГА і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

Ул. БАГДАНОВІЧ

# ВЕЧАРАМ, ЛЯ ПІВА

*ІРАНІЧНАЯ ПРОЗА*

ПІВА прадавалі ў маленькім драўляным ларочку-шпакоўні. Сямён Іванавіч Аўтобусаў даўно ўжо, яшчэ ў халасцяках, узяў у звычку зазіраць сюды кожную нядзелю пад вечар. Яму тут падабалася: ларок утульна хаваўся сярод прапыленых гарадскіх ліп, там і сям чарнелі пузатыя бочкі, недалёка звінеў трамвай, вурчалі аўтамашыны. Словам, горад жыў сваімі турботамі. І прыемна было хоць на гадзіну адхіснуцца ад таго гаманлівага берагу, узяць пару куфляў піва, выняць з патаемнай кішэнькі маленькую высушаную плотачку і правіць імшу на пастаўленай «на папа» бочцы.

Кампанія тут збіралася стракатая, але дысцыплінаваная. Сталыя аматары піва падтрымлівалі «пратакол» і не саромеліся ўправіць мазгі занадта шумліваму свайму сабрату.

Справа ў тым, што Іраіда, так звалі буфетчыцу, час ад часу пагражала зачыніць «лавачку», бо на лаянку мог зазірнуць міліцыянер, а яна не мільёншчыца, каб плаціць за алкаголікаў штраф.

Сямён Іванавіч, праўда, у глыбіні душы крыўдзіўся, калі буфетчыца ўсіх агулам называла алкаголікамі. Які ж ён алкаголік? Але ў спрэчкі не лез, толькі ўздыхаў і зацягваўся цыгарэтай.

Усё было гэтак жа і ў той вечар, калі Сямён Іванавіч Аўтобусаў пазнаёміўся з цікавым суб'ектам. Ён стаяў у чарзе, якая мудрагеліста гнулася вакол ліп, і ўжо аддаваў Іраідзе грошы, калі нехта далікатна крануў яго за плячо. Аўтобусаў азірнуўся і схаладнеў. Побач з ім стаяў мужчына, але што за выгляд ён меў! На галаве, сярод зблытаных чорных валасоў, узвышаліся два невялікія тупыя рагі, апрануты ён быў у нейкую рознакаляровую камізэльку, у чорных руках мужчына трымаў тонкі хвосцік, які хаваўся недзе за спіной.

Ніхто не закрычаў, каб Сямён Іванавіч не браў яму піва без чаргі, і Сямён Іванавіч спытаў шэптам:

— Колькі вам?

— Пару,— адказаў той і працягнуў Аўтобусаву металічны рубель. Потым яны адышлі ўбок, паставілі куфлі на бочкі, і Сямён Іванавіч па звычцы выцягнуў плотачку.

— Жадаеце? — спытаў ён свайго новага таварыша, адрываючы ад рыбкі галаву.

— З задавальненнем,— адказаў мужчына.

Пачалі піць. Піва рыжае, густое, халаднаватае, крыху супакоіла Аўтобусава, ён асмялеў.

— Хто вы? — спытаў ён.

— Чорт, хто ж яшчэ, — паціснуў плячыма мужчына.

— Я не маленькі, — пакрыўдзіўся Аўтобусаў. — Чарцей не бывае.

— Але я існую, — лагічна зазначыў мужчына.

— А хіба яны любяць піва?

— Як чэрці! — бліснуў той прыгожымі белымі зубамі.

— А грошы адкуль?— цікавіўся далей Аўтобусаў.

— Зарплата.

— Як? І ў вас зарплата?

— Мы ж таксама працуем. Бывае, што кругламі суткі. Самі ведаеце.

— І колькі выходзіць у месяц?

— Як калі... У мінулым, напрыклад, я атрымаў сто трыццаць.

— І хапае?

— Калі іх хапала? Вам хапае?

— Жонка таксама працуе, — дыпламатычна адказаў Аўтобусаў.

— А я халасты,— сумна ўздыхнуў чорт.

Аўтобусаў глянуў на яго з жалем. «Бач ты, — падумаў ён,— чорт, а таксама, як чалавека, шкада...»

— Нічога, — цёплым голасам сказаў Сямён Іванавіч.— Нічога, прыйдзе і да вас сапраўднае шчасце. Вазьміце мяне, напрыклад. Я, праўда, не чорт, але і мне не вельмі шанцавала з дзяўчатамі. Як даведаюцца пра прозвішча, а я — Аўтобусаў, так адразу скок ад мяне. Гараваў доўга, пакуль Раю не сустрэў. Пакахала яна мяне, замуж пайшла. Прозвішча, кажа, самае сучаснае. Я яе так шаную...

— Жанчыны, наогул, зло, — нерашуча сказаў чорт і чамусьці азірнуўся.

Аўтобусаў спахмурнеў. Ён не чакаў такога тэзіса ад новага знаёмага. Хаця... Хаця, яму ж так не шанцуе. Бедны чорт!

— Магу вас пазнаёміць з адной, — нечакана для сябе прапанаваў Сямён Іванавіч. — Працуем у адной установе. Вельмі інтэлектуальная асоба. А характар! Анёл, ды і толькі...

— Анёл! — скрыгануў зубамі чорт. — Я іх усіх забіць гатовы! Кожны анёл на самой справе жудасны д'ябал. Калі хочаце ведаць, толькі мы, чэрці, сапраўдныя анёлы. Учора, напрыклад, я спазніўся на працу, усяго на паўгадзіны, завяраю вас, дык адзін... анёл ледзь скуру з мяне не злупіў. А як мы ўкалваем?! Як чэрці! А дзе падзяка, я вас пытаю? Дадуць троху падзарабіць у масоўцы, а гавораць, што ашчаслівілі... Эх!

Чорт змоўк. Аўтобусаў усё больш і больш шкадаваў яго. «Вазьму яму яшчэ піва, — вырашыў ён. — Можа хоць гэта сагрэе яго зледзянелую душу. А ці ёсць у яго душа?»

Сямён Іванавіч ужо хацеў пацікавіцца наконт гэтага, як раптам чорт падскочыў на месцы, потым крутануўся і кінуўся некуды ўбок... Як ні ўглядаўся разгублены Аўтобусаў, але новы яго знаёмы знік, як знікае ўсякая нячыстая сіла.

Крыху пакрыўджаны, Сямён Іванавіч прыйшоў дадому. Жонка глядзела тэлевізар, дзеці гойсалі па пакоі.

— Дзе ты швэндаўся? — спытала жонка.

— Я, Раечка, з чортам пазнаёміўся, — адказаў Аўтобусаў з ганарлівай усмешкай.

Жонка войкнула і праз імгненне заплакала.

— Алкаголік, — загаласіла яна. —Адпіў мазгі, стары дурань. Я сяджу перад тэлевізарам адна цалюткі вечар, ні ў тэатр, ні ў кіно, а табе толькі чарка на ўме...

Аўтобусаў пайшоў у ванну і адмакаў там доўга-доўга. Раніцай папрасіў у жонкі прабачэння і запэўніў, што нагі яго ля піўнога ларка больш не будзе.

Не пашанцавала і чорту. Як ён ні спяшаўся, а хвілін на пяць спазніўся. Анёл у максі-спадніцы бліснуў на яго вачыма і салодкім голасам сказаў:

— Артыст Куркін, вы затрымалі кіназдымкі. Рэжысёр абяцаў злупіць з вас скуру. Віншую вас.

— Дзякуй,— сумна адказаў «чорт» Куркін і сам сабе дадаў. — Шчаслівы Аўтобусаў...

Ул. ПРАВАСУД

# ЭПІТАФІІ НА МАГІЛАХ

**ПАДХАЛІМА**

**На рознай працы ў розныя гады**
**Ён гнуў перад начальствам сваю спіну.**
**І толькі распрастаўся ён тады,**
**Калі яго паклалі ў дамавіну.**

**ЛАЙДАКА**

**Ён ні на кога не зважаў,**
**Каб толькі нейк лягчэй пражыць.**
**На гэтым свеце ён ляжаў**
**І... на тым свеце ён ляжыць.**

**ПЕРАСТРАХОЎШЧЫКА**

**Няслі сюды—не пакідала хваляванне:**
**Ці ўзгоднена з кім-небудзь пахаванне!**

**АНАНІМШЧЫКА**

**Хто ён такі! Што здарылася з ім!**
**Як пры жыцці, і тут ён ананім.**

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

*Дарагія таварышы! Я вымушаны пісаць гэты ліст, таму што не цярплю ніякай няпраўды... Маскоўскае выдавецтва «Искусство» ў мінулым годзе выпусціла кніжку Яна Астроўскага «Чацвёртая гісторыя». Я, канечне, нічога не маю супраць гэтай прыемнай з'явы, супраць аўтара. Пашанцавала чалавеку, цудоўна. Тым больш, што як сам ён піша, не вельмі салодкі ў яго хлеб: «...прыходзіцца вазіцца з невясёлымі справамі аб бюракратах, хамах, махлярах, чынушах, беглых аліментшчыках». Усё гэта так. Але хто вінаваты ў тым, што было дапушчана ў кнізе скажэнне праўды? Мяркую — выдавецтва... Кнігу яно назвала «Чацвёртая гісторыя». Заўважце, чацвёртая... Значыць, сцвярджаецца, што чытачу будзе расказана пра адну «Чацвёртую гісторыю» з жыцця вядомага клоуна Алега Папова, або... мы прачытаем усе чатыры гісторыі.*

*Што ж атрымалася на справе? Па майму падліку толькі сам аўтар аўтарытэтна называе нам 15 нявыдуманых гісторый, такіх, як «Так і запішыце», «І смех, і грэх», «Смешна? Для каго як!..». Я, дарагія таварышы, не матэматык, але добранька пакорпаўшыся ў кнізе і нарагатаўшыся ўволю, адшукаў гэтых смешных гісторый удвая больш. Асабліва, калі ўлічыць, што іх тут расказвае не толькі сам Ян Астроўскі, але і яго сябры-гумарысты з Украіны і Беларусі — Мікола Білкун, Уладзімір Канаш, Паўло Дабранскі, Павел Кавалёў, Іван Сяркоў, Леанід Прокша, Міхась Скрыпка, Міхась Пянкрат, Генадзь Кляўко — усіх нават не запомніш.*

*Дык вось і прашу я шаноўнае выдавецтва «Искусство» ў далейшым не дапускаць такіх недаравальных памылак, не ўводзіць чытача ў зман загалоўкам...*

*А наконт саміх вясёлых гісторый і жартаў — дык няхай і сам Ян Астроўскі паболей піша і іншых няхай паболей перакладае на рускую мову. Нічога не маю супраць...*

ВАШ ЧЫТАЧ.

Рыгор ЯЎСЕЕЎ

# СУЦЯШЭННІ

**Будзь малойчыкам, сыночак,**
**Вытры слёзы, галубочак...**
**Плача.**

**Раскажу табе я казку**
**Пра руплівую Параску...**
**Плача.**

**Намалюю я ката,**
**І мядзведзя,**
**І кіта...**
**Плача.**

**Прыкясу не сёння — заўтра**
**Шапку я табе з андатры.**
**Сціх!**

# ВЫБАР НАЗВЫ

**Парады пачаткоўцам Аўдзея Самасея**

ПРАЦЯГВАЕМ, дарагія таварышы, нашы ўрокі літаратурнай вучобы... Малады аўтар, выпускаючы сваю першую кніжку, тым самым пачынае нялёгкую дарогу творчасці. Гэта паняцце дарогі, сцежкі, падарожжа і варта вынесці ў загаловак, як многія ўжо рабілі бліскуча да вас:

«Дарога ў будучыню»—Э. Агняцвет, «Дарога бяжыць насустрач» — Я. Курто, «Дарогай шчасця» — А. Бялевіч, «Дарогаю вясны» — С. Шушкевіч, «У дарозе» — М. Гарулёў, «У вялікай дарозе» — І. Гурскі, «Дарожка» — В. Вітка, «Дарога ў горы» — А. Лазнявы, «Дарога дружбы» — А. Цітоў, «Дарога жыцця» — П. Броўка, «Дарога пачынаецца ў Маскве» — В. Сокалаў, «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску» — І. Новікаў, «Дарогі майго краю» — М. Аўрамчык, «Дарога ішла праз лес» — Б. Сачанка, «Дарогі і летуценні» — А. Лойка, «З пройдзеных дарог» — Р. Сабаленка.

«Па лясных сцежках» — В. Вольскі, «Па воўчых сцежках» — М. Паслядовіч, «Пагранічныя сцежкі» — М. Плотнікаў.

«Першае падарожжа» — П. Вішняк, «Падарожжа ў маладосць» — І. Навуменка, «Падарожжа ў суровае мінулае» — А. Залескі, «Афрыканскае падарожжа» і «Падарожжа па краіне беларусаў» — В. Вольскі, «Падарожжа ў XIX стагоддзе» — А. Мальдзіс, «Падарожжа ў літаратурнае мінулае» — І. Бас.

У наступны раз мы прадоўжым наша **падарожжа** ў блізкую нам літаратурную сучаснасць.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.